ББК 83.3.Бел.7
С42

**Укладальнікі:**
Аляксей Каўка
Віктар Чайчыц (каардынатар праекта)

Скарыніч: Літаратурна-навуковы гадавік
Вып. 10. – Москва : "ПКЦ "Альтекс" 2011. – 344 с. : іл.
ISBN 978-5-93121-293-7

Чытачу прапануюцца творы беларускай літаратурнай класікі, прысвячэнні М.Багдановічу, Ул.Караткевічу, малавядомыя старонкі спадчыны М.Лабойкі, І.Грыгаровіча, І.Насовіча, П.Шпілеўскага, В.Ластоўскага, Я.Хлябцэвіча, Б.Тарашкевіча, Ул.Дубоўкі, М.Улашчыка; скарыназнаўчыя матэрыялы, архіўныя сведчанні пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, пра эміграцыю - БНР 1920-х. Доўжыцца тэма прысутнасці Беларусі, беларуса ў расійскай, маскоўскай прасторы, уключна з таемным лёсам Крыжа Лазара Богшы і Еўфрасінні Полацкай.

ISBN 978-5-93121-293-7

# Змест



## “Каб не умёрлі…”

## На ўгодкі
## Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Браніслава Тарашкевіча, Мікалая Улашчыка



## З Масквы гледзячы

## Беларусь учора і сёння. Міжнародны кантэкст

## Scoriniana

## Varia



## З пошты “Скарыніча”



* * *



1. На вокладцы: помнік Францішку Скарыну ў Мінску каля Нацыянальнай бібліятэкі (на былых содалевых сотках у Зялёным лузе). Скульптар А.Дранец.

2. Браніслаў Тарашкевіч па заканчэнні Пецярбургскага універсітэту [1918-1919 г.г.]. Аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ імя Я.Коласа Нацыянальнай Акадэміі Беларусі. Фотарэпрадукцыя А.Клешчука.

3. Беларусіка ў фондах Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Вокладка часопіса “Змаганьне”, 1924 г.

4. Народная артыстка Беларусі Ларыса Александроўская.

5. Дарчы аўтограф кампазітара Д.Шастаковіча – Александроўскай. 1950 г. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

6. Мікалай Улашчык у таварыстве М.Купавы, Я.Куліка, У.Крукоўскага, А.Марачкіна, В.Маркаўца, М.Раманюка. Мінск, 1978 г. Фота В.Дубінкі.

7. Уладзімір Караткевіч на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве (другі справа ў другім радзе знізу). 1960 г.

8. Юбілейны канверт пошты Беларусі ў гонар Ул.Караткевіча. 2010г.

9. Генадзь Бураўкін – дэлегат з'езда пісьменнікаў СССР (першы справа ў другім радзе; у першым радзе – Валянціна Шчадрына). Масква, 1976 г. БДАМЛіМ.

10. Яўгеній Еўтушэнка сярод беларускіх Еўтушэнак. Вёска Хомічы, Гомельшчына, 1971 г. Перадрук: "Известия", 1992 г., 8 февраля.

11. Андрэй Макаёнак і Яўгеній Еўтушэнка. Мінск, 1971 г. З фотатэкі Міхася Скоблы.

12. Уладзімір Конан (першы справа) – удзельнік Доўнар-Запольскага чытанняў. Рэчыца, верасень 2003 г.

13. Беларусы Масквы (С.Астроўская, А.Бабарэка, А.Глод, А.Кажадуб, А.Каўка, А.Сабалеўскі, Я.Шэгідзевіч…) каля помніка Янку Купалу (скульптары Л. і С.Гумілеўскія). 8 ліпеня 2006 г. Фота А.Улашчыка, Р.Чырвонцава.

14-15. Беларуская бібліятэка і музей імя Ф.Скарыны ў Лондане. Фота А.Чайчыца.

16. З дарчых аўтографаў у лонданскай "Скарынаўцы".

17. "А хто там ідзе...?" Плошча. Менск, 19 снежня 2010 г.

# Ад укладальнікаў

Трэба запярэчыць катораму з мадэрновых крытыкаў, падкаму ў чарговыя "рожкі" з класікамі. Праўда, цяпрашнія арт-радыкалы ні Багушэвіча ні Купалу не зрынаюць з "корабля современности" (мабыць з-за адсутнасці мора ў азёрнай краіне), але колкіх шпілек у адрас таго і другога не шкадуюць. Абок несуцешлівых, вядома ж глыбокадумных, высноў кшталту: нацыянальны праект на Беларусі не адбыўся. Зноў жа, ці не з віны папярэднікаў-будзіцеляў Адраджэння - тыя, маўляў, квола, прымітыўна пракламавалі рух вызвольны: "Бедна мая хатка…"; "А хто там ідзе..?". Ну што тут, скрушліва моршчыцца іншы інтэлектуал-дэканструвіст, эстэтычнага, філасофскага, парыўчага да дзеяння?

Будзьма ўсё ж справядлівымі: і Бурачкова трубнае заклінанне "Каб не ўмёрлі!" і Купалаў младабеларускі покліч "Занімай..!" – не для архіва. Ім доўга лунаць і грымець над змагарнаю Плошчай, хваляваць лятуценні, вастрыць сціло новых і новых творцаў. Не ведаем, каго як, а нас і сёння гострым болем працінае Паэтава літанне "Над народу доляй.., Над народу сконам". Лекавацьме той боль з гаючай крыніцы Францішкавай…

Так што, гаварэнне пра хібнасць Беларускага праекта не мае сэнсу. Нацыя адбылася – з самабытнай, знанаю ў свеце культурай, з гожым, ласкавым словам беларускім, з … неадчэпным, горкім парадоксам: "*Мы ў сваім чужыя – край забраны тут*".. Хоць пастылую "*забранасць*", сіроцтва наша культура-духоўнае вызначае ўжо не прыбыш-захопнік, але чужак уласнае гадоўлі, драпежны ўладарнік – прагны пад спакуслівае "накормить» фактычна збыдлячыць люд паспаліты, выпетрыўшы з яго істоты нацыянальную памяць і годнасць. Пры незайдросным наканаванні Беларускага лёсу – слова роднае, спадчына продкаў скрозь застаюцца магутным чыннікам грамадзкага супраціву асіміляцыі-"манкуртызацыі", гарантыяй нацыянальна-творчага самавыяўлення беларуса. Гэтулькі – адносна літаратурнага (сумна-пафаснага, крыху гумарыстычнага) напаўнення "Скарыніча" №10.

Некалькі паясненняў. Падарожнае эсэ, лісты Я.Хлябцэвіча пра Ясную Паляну, Л.Талстога дадаюць яскравы штрых да творчага партрэта пісьменніка-"нашаніўца", аднаго з лідэраў беларускага студэнцкага руху ў Пецярбургу пачатку XX стагоддзя, багацяць тагачасную хроніку беларуска-расійскіх літаратурных сувязей.

Упершыню друкуюцца ўспаміны пра Б.Тарашкевіча яго другой жонкі Н.Палянскай, частка “Хронікі”, лісты М.Улашчыка, матэрыялы Багдановічавых чытанняў (1991г.), старонкі з спадчыны Ул.Дубоўкі, Ул.Караткевіча.

Асобным раздзелам вылучаны шматвяковая прысутнасць, пачуванне беларусаў у Маскве. Даўняе сваяцтва, узаемнае прыцягненне-адштурхоўванне народаў-суседзяў не абавязкова нівелюе, зацярушвае этна-ідэнтычнае аблічча чалавека (лёс ці не бальшыні нашых суродзічаў на расійскіх і іншых замежных абшарах), але і падсілкоўвае, кантрастуючы, яго нацыянальную адметнасць, незалежнасць. У гэтым сэнсе асабісты жыццёвы досвед аўтараў і персанажаў прапануемых тэкстаў бачыцца нам даволі паказальным, павучальным.

У раздзеле “Беларусь учора і сёння” аналізуюцца міжнародныя сувязі Беларусі, у тым ліку ў гістарычным кантэксце, пачынаючы з беларуска-літоўскай мінуўшчыны. Абмяркоўваюцца няпросты стан сучасных адносін з суседзямі і неабходнасць выхаду Беларусі - краіны ў геаграфічным цэнтры Еўропы, на перакрыжаванні геапалітычных рухаў на кантыненце – на шырокую дарогу шматбаковай еўрапейскай інтэграцыі.

У “Scoriniana” звяртаем увагу чытачоў на адпаведныя нататкі І.Лабойкі, І.Грыгаровіча, П.Шпілеўскага, І.Насовіча, - іхні, пачынальнікаў, след у станаўленні новай беларускай літаратуры дасюль па-належнаму не асэнсаваны, не ацэнены. Лічым таксама пераканаўчымі контрдовады Я.Станкевіча адносна версіі В.Тумаша пра падарожжа Ф.Скарыны ў Маскву.

Матэрыялы “Varia” – яшчэ адно, малавядомае сведчанне пакручастага, драматычнага шляху беларусаў да ўласнае дзяржаўнасці. Яна, як відаць, не ў 1991-м раптоўна звалілася на іх збянтэжаныя галовы (меркаванні некаторых аўтараў). Наадварот, падрахавала многавечнае змаганне наступнікаў Льва Сапегі, Кастуся Каліноўскага, Янкі Купалы за “пачэсны пасад” між народамі.

Чытай жа, ласкавы чытэльніку, “вачыма поўнымі Беларусі, а сэрцам поўным болю” (Ларыса Геніюш). Так – пераможам.
Шчасці Божа.

*Аляксей Каўка* *Віктар Чайчыц*

## Францішак Багушэвіч

### Мая дудка

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!
Ой! то будзе гранне,
Як на павітанне
І як на васэле,
Нядоўга тыкеле:
Прэндка скончу песні...
Покі дудка трэсне,
Ці паглохнуць людзі,
Ці высахнуць грудзі,
Сілы надарвуцца
На радаснай дудцы,
І выцякуць слёзы
На сухія лозы...
Выйдзе душа парай,
Падымецца з хмарай,
Туманом па рэчца,
Расой разліецца,
Каласочкі зрося,
Каб жыта ўдалося.
А хлеб з'ядуць людзе,
І зноў сляза будзе.
Ну, дык грай жа, дудка,
Каб жа была чутка,
Каб аж вушы драла;
Каб ты так іграла,
Каб зямля скакала!
Заграй так васола,
Каб усе у кола,
Ўзяўшыся ў бокі,
Ды пайшлі у скокі,
Як віхор у полю —

Аж выючы з болю,
Каб аж рагаталі,
А усё скакалі...
Каб скакалі горы,
Як фаля на моры,
Як паны на балі,—
Каб вот як скакалі!
Каб аж пыл курыўся,
Каб свет заваліўся
Ды усё круціўся,
Як ў нашага брата
У п'янога хата...
Га! Чаму ж не граеш?
Хіба ты не знаещ,
Не ведаеш хіба,
Што, як тая рыба
Ды на лёдзе б'ецца,
Так вот я, здаецца,
Сорак гадоў б'юся,
Ніяк не звярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.
Грай, васола ж грай,
Альбо долю дай!..
..........................
Енчыш безумолку!
Не, не будзе толку!
Кіну ж дудку тую,
А зраблю другую.
Цяпер зраблю дудку
Ад жалю, ад смутку.
Га! зраблю ж другую,
Жалейку смутную,—
Ды каб так заграла,

Каб зямля стагнала,
От каб як заграла:
Каб слязьмі прабрала,
Каб аж было жудка,
От то мая дудка!..
Вот зрабіў такую!
Дай жа папрабую...
Ну, дык грай жа, грай жа,
Усё спамінай жа...
Штодзень і штоночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй,
І плач штораз болей.
Плач так да астатка,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці,
Дзень, другі і трэці
Іграй слёзным тонам
Над народу сконам!
Каб ты так іграла,
Каб немарасць брала.
Як слязы не стане,
Заціхне іграние,—
Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам —
Не слязой — заплачыш,
Як усё абачыш.
Як крыві не стане,
Тагды кончу гранне!

**Янка Купала**

## Перад будучыняй

Стаім мы перад будучыняй нашай,
І ўсё варожым, сочым ейны ход…
Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род…

Сягоння мы жывём і ў дзень мы блудзім
Пад маскай, сляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Не ведаем, не можам, хоць і час.

Зацiснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам з усіх бакоў,
Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.

Пакрыўленыя колісь нашу душы
Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ;
Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,
А хтось, а штось і мучыць і пячэ.

Цябе чакаем, будучыні нейкай,
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.

А хтось далёкі ці хтось, мажа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.

Нявольніцтва й жабрацтва так нас з’ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок.

Там чутна: Беларусь! Там – Незалежнасць!
А там - “Паўстань пракляццем…” Ну, а мы?
Мы ў страху… дум крутня… разбежнасць…
Без толку крыллем лопаем, як цьмы.

О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны, -
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпынку выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у свет – скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,
Што мы – не мы, што нехта вінават…

І так жывём, сябе саміх не знаўшы,
Учора, сёння лазім між канаў…
Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом пракляты заламаў?

Няўжо нас не аб’ясніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны –
Кліч бураломны: вызваленне з пут?!

*1922 г.*

## Сяржук Сокалаў-Воюш

* * *

Віншую цябе, Беларусь,
З вялікім 1000-годдзем!
Няхай скаланецца хлус,
Бо праўда жыве ў народзе!

* * *

Мая.
        Не мая?
                Мая!
Вам спрэчкай мяне не адолець,
Бо праўды ад маскаля
Не мушу пачуці ніколі!
Гісторыю нашу ўшчэнт
Разнеслі з сілы права
І неяк сляпы дацэнт
Адмовіў маю дзяржаву.
Казаў ён: “Дзе вы былі,
Каб не прыйшоў Кастрычнік?”
Казаў, што на маскалі
Трымаўся яшчэ наш язычнік.
Ды толькі не ўцяміў ён,
Што іншыя нашы крылы –
Яшчэ ад часоў плямён,
Яшчэ ад часоў Ярылы!
Ў гісторыю кіну зрок
І бачу, як князь пры сконе
Ў сыноў сваіх браў зарок
Высока трымаць Пагоню!
І жыў гэты герб святы
І жыць яшчэ доўга мусіў,
Пакуль маскалі на ты
Не лезлі да Беларусі.

**Уладзімір Караткевіч**

## Амаль хрысціянскі тост за ворагаў

*Адаму Мальдзісу*

Гіене – баяцца, сабаку – вішчаць,
Свінні – рыцца ў гноі сваім.
А льву патрэбны калючы гушчар,
Родны край і свабода ў ім.
П’ю за тое, каб нам сярод родных лясоў
Не вішчаць, не дрыжаць, не крывіць,
Бо ўсе мы тут не з гіен і не з псоў,
Бо мы – сапраўднай крыві.
І таму давайце за ворагаў піць
І за імі сатканую сецьь,
Бо ім не дадзена нас палюбіць
І не дадзена нас зразумець.
Бедалагі!
        Не ўцяміць іх бедным мазгам,
Пакуль не праб’е ім канец,
Як добра быць другам і братам нам,
І яму, і табе, і мне.
Божа, дай ім даўжэй пражыць,
Хай спаўна аттрубяць свой час,
Хай да самай апошняй нашай мяжы
Будуць яны у нас.
Божа, ты скінуў іх нам, як дары,
І мы славім мудрасць тваю,
Бо яны нас будзяць яшчэ на зары
І рана заснуць не даюць.
І ўстаем, і арэм мы нашы палі,
Пакуль не апусціцца змрок,
І мы ўстаем, і зброю сталім,
Словам сталім і радок.
Ім няма з кім ісці пліячо да пляча,
З кім любіць, з кім стаяць у баі,
З кім смяяцца, спрачацца і нават маўчаць.
А памруць – хто паплача па іх?
Даруй ім. Яны пакараныя й так,

(Даруй хоць на гэты раз),
Бо розуму ў іх, як слёз у ката́,
І не могуць пазычаць у нас.
І даруй нам, што сеем мы ў душы ім жах,
Як скачком бяром частакол,
Што даводзіцца ім дрыжаць у дамах,
Калі гойсае леў вакол.
Твой закон, што вазіць нявартыя гной
Чалавек такі і народ,
Калі вораг ад назвы іхняй адной
Не бялее, як снег і як лёд.

## Ліст да Лідзіі Панамарэнкі [1]

Думал было так и кончить письмо. Но вдруг вспомнил еще одну причину для счастья. Познакомился с замечательной пожилой женщиной, поэтессой Ларисой Гениуш. Вы о ней не знаете, да и я до недавнего времени (этой весны) ничего не знал. Её единственный сборник вышел в Праге чешской в сорок втором (кажется) году. Она из Западной [Беларуси] и еще до войны выехала в Чехию за мужем-врачом (в Польше не было работы). Там писала стихи и печаталась в газете белорусской колонии. А потом напали немцы и, хотя она нарочито стояла вне политики, те предложили ей написать стихи в честь немецких «вождей». Она отказалась, высказав издевательскую мотивировку: « У меня мало таланта, чтобы воспеть их, как они того заслуживают». Осталась жива. Потом пришли наши и потребовали от чехов выдачи, хотя она и муж никогда не были нашего [советского] гражданства. Те выдали. Допрашивал начальник белорусского МГБ Цанава, ставленник и друг Берии. «Я, говорит, уж и сама не помню, чему молилась на допросах, чтобы нечаянно не сказать, чтобы не выбили. Может, тени Кастуся». Инкриминировали ей писание безыдейных стихов, национализм (хотя она такой не была) и еще вывоз богатейшего архива колонии [белорусской в Чехии]. Она, собственно, его и не вывозила, но не могла не содействовать, зная, что книги редчайшие ждет пламя. И еще, когда вывозили, поцеловала герб. Экзальтированная, в высшей степени чистая и страстная личность – какими только женщины могут изредка быть.

Не разбиралась ни в чем, потому что видела только бериев да цанав. Странное дело, но ведь в самом культе заложены всегда семена гибели, потому что он ожесточает людей, которые могли быть ценны. Так и случилось.

И вот вам стихи, написанные тогда. Худшей оплеухи белорусским мужчинам я еще никогда не видывал. И эта оплеуха вся в названии. Попытайтесь его закрыть и прочесть. А потом взглянуть и на него. В общем, в те страшные дни… Да что Вам говорить, сами понимаете. Нам должно быть мучительно стыдно, мужикам, потому что в слабой оболочке этой женщины живет такой могучий дух, какого нам и почувствовать в себе не дано. Единственный мужчина среди нас, жалких тряпок, ничтожного бабья, дачных откормленных собак. Словом, несуществующие. Напрасно и порох тратила, милый человек.

Вот так. Все это о моем житье-бытье. Если не сердитесь, если понимаете меня и ход моих мыслей – пишите. Что делать, я, конечно, могу быть неприятен, но ведь любой человек меняется. А из волчонка ведь тоже можно воспитать хорошего пса, настоящего друга.

Если только не держать его на цепи и не бить. Иначе – пусть не кладет его хуторянин возле постели.

Вот такие дела, милая Лидия Арсеньевна, настоящий мой, всегда меня понимавший друг.

Крепко жму Вашу добрую руку.

Ваш друг Владимир.

---

[1] Лідзія Арсенеўна Панамарэнка – выкладчыца Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Т.Шаўчэнкі. Дадаткам да ліста – верш Л.Генiюш, перапісаны таксама рукой Ул. Караткевіча – *Уклад*.

**Ларыса Генiюш**

## Неіснуючаму

Градам слоў б’еш у сэрца маё,
На’т вясняных не слухаеш казак,

Толькі ў маршы ідзеш праз жыццё,
Знаеш слова адно: абавязак.

Быццам панцыр на сэрца ўзлажыў –
Не прабіць яго нават вачыма.
Не ад шэптаў кахання дрыжыш,
А ад яснага слова “айчына”.

Маіх вуснаў не хочаш, як мак,
Ані песняў маіх на сутонні, -
Ўсё мяняеш на вырыты знак
Вечна рвучай наперад Пагоні.

Места ў вочы – глядзіш на курган,
Места рук маіх – меч абдымаеш,
На’т не бачыш як гнуткі мой стан,
На’т не чуеш, як шчыра кахаю…

Тваё сэрца рашуча так б’е…
Толькі сіла, нязломная сіла…
Ці не чуеш, што травень пяе,
Што чароўная ноч гаманіла?

Цябе, знаю, нішто не сагне,
Ты жывеш толькі, моцна, для Краю.
Ўсё-ж ты казачны сон для мяне,
Ўсё-ж цябе я бязмерна кахаю.

Шчасце колісь як птах адляціць,
На’т каханне згарыць як лучына, -
Сонцам толькі не згасне ў жыцці
Несмяротные слова “Айчына”.

*Публікацыя Алены Сінькевіч*

**Рыгор Барадулін**

## Мы людзі такія

Ад торбы да кія
Кароткая сцежка.
Мы людзі такія –
Нас грэе суцешка.

Сваё не баронім,
Не прагнем чужога.
І ў граі варонн ім
Узгадваем Бога.

Блукаем аблудна,
Ганьбуем Радзіму.
Нас вэндзяць марудна –
Мы ўдзячныя дыму.

Выгнанец-тужынец
Прачнецца ў застудзе.
Нас хваліць чужынец:
Рахманыя людзі!

Апроч дамавіны
Хапае спакусы.
Мы выжыць павінны,
Бо мы – Беларусы!

20.V.[19]95. Менск
*БДАМЛіМ. Ф.340*

## Ня быць!

Ня чуцьме гісторыя байструка.
Асінай
Зямля пракліне зьнявагу.
Ня згасіць

Імперыі друзлай рука
Сьвітальнае неба
Крывіцкага сьцягу.
Назад не паверне
У заўтра хаду
Плячо халуя
Ў кэгэбісцкім пагоне.
Рука крыгаломная
Змые брыду
Ня быць у глюгастым палоне
Пагоні!

*14.V.[19]95.*

**Ніл Гілевіч** *

## Ода беларускаму нацыяналізму

О ты, якому дзякуючы мы,
Твае даследчыкі-спецыялісты –
Гісторыкі, філосафы, лінгвісты -
Вучоныя ступені маем, званні,
Узнагароды, прэміі, прызванне
І хлеб надзённы – для сябе й дзяцей!

Кім мы былі б цяпер, эпохі блазны,
Калі б не ты, звыродны, буржуазны,
Калі б не наша барацьба-змаганне,
Супроць цябе, супроць тваіх ідэй?
У барацьбе з табой, з табой, пракляты,
Мы здабылі, займелі ўсё, што маем, -
Пасады, і кватэры, і зарплаты,
Аўтамабілі, гаражы і дачы,
І хлеб надзённы – для сябе й дзяцей!

О, што б мы значылі, калі б не ты!
Хто знаў бы нас, бязглуздых і бяздарных,
Апроч як плюндрыць –
ні на што не здатных?
Таму і надалей, да дзён астатніх,
Цябе даіць – не трацім мы надзей.
Пакуль ты ёсць – мы будзем мець і працу,
І неблагі заробак, і прыплату,
І хлеб надзённы – для цябе й дзяцей!

Якое шчасце, хоць наш бой крывавы,
Што ты – такі жывучы і трывалы!
Бо як уявіш нават на імгненне,

* ***У сувязі з юбілеем - 30 верасня 2011 г. Нілу Гілевічу споўнілася 80 гадоў – рэдакцыя “Скарыніча” павіншавала народнага Паэта і перадала яму найлепшыя пажаданні здароўя, натхнення і дабрабыту.***

Што больш няма цябе, о рэакцыйны!
О ненавісны! Контррэвалюцыйны!
Антысаве… пардон, антыгвінейскі! –
Жах працінае мошчы зверху ўніз!
Крый Бог, каб нам змагацца стала не з кім!
Таму – пакуль мы маем зубы ў пашчы –
Ты не павінен назусім адпасці:
Жыві і вечна трохі целяпайся,
Ты, працадаўца наш і хлебадаўца,
Ты, беларускі нацыяналізм!

*20.10.1996*
*Крыніца. №3(63). 2000*

## Вялікі чалавек рускай культуры

Прачытаўшы ў кнізе Г.В. Свірыдава "Музыка как судьба" яго думку пра тое, што было сказана мною на Пленуме Саюза пісьменнікаў СССР, я, вядома ж, узрадаваўся, нават вельмі, але – не здзівіўся, як бы іншага і не чакаў. Чаму? Таму што ўжо доўгі час – каля сарака гадоў – трымаў у памяці адзін ягоны ўчынак, які зусім адназначна характарызаваў адносіны гэтага геніяльнага кампазітара да нацыянальнай культуры беларускага народа. У сярэдзіне 1960-х часта сустракаўся з тагачасным патрыярхам беларускай музыкі Р.Р. Шырмам. У адной з гутарак Рыгор Раманавіч распавёў мне, як у Маскве на Пленуме (ці Сакратарыяце?) Саюза кампазітараў СССР абмяркоўваўся стан сучаснай беларускай музыкі і што там адбылося. Хтосьці з гаспадароў папракнуў кіраўніцтва Саюза кампазітараў Беларусі за недастатковую прапаганду беларускай народна песеннай творчасці. "На гэты папрок, – як зараз чую голас Рыгора Раманавіча, – старшыня нашага Саюза кампазітараў Камінскі адказаў: "Сёння прапагандаваць беларускую народную песню сіламі прафесійных выканаўцаў, майстроў сцэны – гэта тое самае, што над парадным уваходам у філармонію павесіць стаптаны лапаць". Як толькі ён гэта ляпнуў – з ганаровага месца

ў першым радзе рэзка падняўся Георгій Васільевіч Свірыдаў і ў відочным абурэнні рушыў прэч з памяшкання”.

Аповед Рыгора Раманавіча мяне, помню, моцна ўразіў. Які бліскучы ўчынак! Які красамоўны выказ ганьбы невуку і цыніку, ненавісніку беларушчыны, што будучы прыблудам прабіўся аж на пасаду старшыні Саюза кампазітараў! Я выказаў захапленне высакародным учынкам знакамітага кампазітара, на што Рыгор Раманавіч, на свой прыродны заходне-палескі лад, “праокаў”: “Дык гэто ж Свірыдаў! Композітар надзвычайно яркого нацыянального облічча. Розумее, у чом жыве душа народа…”

І вось, праз дваццаць з гакам гадоў, прачытаўшы ў “Литературной газете” прамову беларускага паэта на Пленуме СП СССР, Георгій Васільевіч пацвердзіў свае адносіны да нацыянальных моў і культур, да нацыянальнай школы. І пацвердзіў вельмі рашуча, з рэзкім асуджэннем дзікунскай нацыянальнай палітыкі дзяржаўных заправілаў. Трэба сказаць, што мая прамова на Пленуме была да крайнасці вострая. Ніхто, ніводзін беларус пра стан нацыянальнай мовы і асветы ў Беларусі ніколі так не гаварыў, так не агаліў нацыянальную катастрофу вялікага славянскага народа. У сваёй кнізе “Між роспаччу і надзеяй” (т. 23, 2008 год) я, з пачуццём глыбокай удзячнасці і найвялікшай павагі да Георгія Васільевіча Свірыдава, падкрэсліў, што ўспрыняў яго ацэнку майго слова “як узнагароду, тым больш уцешную, што яе выказаў вялікі чалавек рускай культуры”.

2011г.

**Мікола Арочка**

## Ці ўскрэснем?

*Ці ўскрэснем мы, душою звяўшы, ўпаўшы,*
*Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род?*
*Янка Купала*

Ва мне смыліць адчайнае пытанне,
Што мучыла Купалаву душу.
Пытанне – як укрыжаванне,
Якое ўсё жыццё ў сабе нашу.

Я з ім жыву ў згодзе і нязгодзе.
Пытанне – нібы з Дрэва свету ліст.
Яно ў маім народзе –
не адно стагоддзе
Для кожнага вятрыска нарасхліст.

Ці ўскрэсне люд душой, як ліст упаўшы
У міждарожжа гразкіх каляін?
Хтось, можа, ахрысціў яго прапашчым,
Ды мы з адных разлапістых галін.

З глыбінь узгадаваныя карэннем,
Нясем загадку вечных таямніц,
Дзе і працяг і повязь пакаленняў,
З якімі жыць і падаць разам ніц.

Хоць люд мой не пад шатамі ў зацішку
Вядзе свой жыццедайны радавод,
Ды свежы ліст, зялёную калыску
Рыхтуе зноў і туліць ад нягод
Спавітую, як немаўля, пупышку,
Каб выйсці ў свет з яе,
Пад родны небасвод,
Як, сапраўды трывушчы
І здольны, неадольны
Род!

*Літаратура і мастацтва. №45. 12 лістапада 2010.*

**Леанід Дранько-Майсюк**

## Эмігрант

Мы ў сваім чужыя.
*Янка Купала*

Сто англій і дзвесце францый
Ніякай сваёю сілай
Не зробяць з мяне эмігранта,
А наша жыццё зрабіла.

Паўсюль, ідучы па Мінску,
Бачу сцяну глухую,
Бо ні здалёку, ні зблізку,
Таго, што хачу, - не чую.

Прайду праз усе райкомы.
Аптэкі, заводы, кавярні,
Кнігарні і гастраномы,
Міліцыю і казармы;

Праз кожную плошчу, завулак,
Кватэры, з якіх не пратураць, -
Дзе ж роднаму слову прытулак?
Няўжо толькі ў літаратуры?

Няўжо толькі ў ёй – адхланне,
Магчымасць адна – не памерці…
Тыраж у любога з выданняў
Па эміграцкай мерцы!

І гэткія ж тым часам
З'яўляюцца сціпла, нягучна
Напаўбеларускія класы
Па дзесяць-дванаццаць вучняў…

Даволі вярэдзіць раны!
І без таго заўважаю –
Глядзяць, як на эмігранта,
На мяне, калі размаўляю.

Адкуль? З якой рэзервацыі?
З якой Беларусі такой?

Эх, вечная эміграцыя
На радзіме сваёй.

*1989*

## Владимир Некляев

# Мой друг, мой брат

*Евгению Евтушенко*

Мой друг, мой брат, привет тебе, привет!
Ты руку подал мне в нелегкий час, не мешкая.
Поэт в России больше, чем поэт –
И в Беларуси он ничуть не меньше.

Ну, вот ему и вышел укорот.
В том ничего невиданного нету.
Пророс 37-й гадючий год
Из ненависти подлецов к поэтам.

Неся кресты, терновые венцы,
Поэты, наши кровные отцы,
Шли по этапам, вешаясь, стреляясь,
А вслед им ухмылялись подлецы,
В самих себе, как в коконах, рождаясь.

Они себе цепляли ордена
И на погонах звезды зажигали!..
Они украли наши времена!
Они страну у нас с тобой украли!

Украли нашу музыку, стихи,
В лай превратили речи нашей звуки,
По всем святыням расползлись, как мхи, –
Не трогайте моё! Отдайте, суки!

Пусть я кричал про то не по уму,
Пусть не туда я встрял – и мне за это
Башку отбили, бросили в тюрьму,
Но я не предал сам в себе поэта.

Поэзию не предал, видит Бог...

Одно мне душу мучает до жженья:
Какой за нами неоплатный долг!
С ума сойти! Но мы отплатим, Женя!

Не отдадим на поруг и на смех
Святое наше братство цеховое...
Мы, может быть, последние из тех,
Кто еще помнит, что оно такое.

Еще вдохнем мы терпкой густоты
Вина, стихов и, как не раз бывало,
Я выпью за Есенина, а ты,
Со мной обнявшись, выпьешь за Купалу.

И будут в окна бабочки на свет
Лететь всю ночь, и лики с небосвода
Всю ночь смотреть... Привет тебе, привет,
Мой друг, мой брат!.. Привет тебе, свобода!

*25.12.2010, внутренняя тюрьма КГБ.*

**Тацяна Палхоўская**

## Верш на Свабоду

Прысніўся сон мне ўчора,
Што выйшла на змярканьні ў поле
І бачу…
Вольна, велічна скрозь дым
Ляціць імчыцца з далячынь,
Узбіваючы капытам пыл,
Жалезнай збруяй трасучы
Пагоні старадаўні прывід.
І так той звон лагодзіць вуха
Сапраўднага ліцвіна, беларуса,
Што не збаяцца кроўю захлынуцца,
Каб хоць на момант дакрануцца
Да назвы той сьвятой і мілагучнай,
І да людзей, што беларусамі завуцца.
Ляціць Пагоня,
а за ёй,
за воем паўставае вой,
гатовы бараніць зямлю
і назву родную сваю.

Ужо за лесам зачынае дзень,
Адкідываюць дрэвы большы цень,
Пагоня мчыць, ня стрымлівае хаду,
Рассейвае з-пад капыт імглу,
А воі шэрагі зьбіраюць на вайну,
І як ад сонца, ад шчытоў блішчаць узгоркі,
Але…

Будзільнік. Ранак. На дарогах коркі.
Замест Пагоні – міліцэйскія атрады.
Замест герояў – халуі улады
Чужынцам прадаюць зямлю,
А беларусы не ўстаюць ад сну.

**Францішак Аляхновіч**

## Як для бабы не старайся

Як для бабы не старайся,
Хоць ты працай убівайся, -
Не дагодзіш ёй ніколі,
Ёй заўсёды недаволі.
Рады не дасі кабеце –
Лад паўстаў такі на свеце –
Баба верх заўсёды мае,
За чупрыну нас цягае.
Дык зусім няма ў тым дзіва,
Каб ў раі жылі шчасліва.
Пакуль баба верх не ўзяла –
Яблыкі рваць загадала.
Раптам бачыць яблынь-дрэва –
Кліча да сябе Адама,
Бо дастаць не можа сама,
Наш Адам – цялё дурное –
Замест лупцаваць за тое,
Ён на яблыньку ўзглядае,
Яблыкі для ёй зрывае.
З тэй пары няма ўжо долі –
Ўсе мы ў бабскае нядолі,
Шчасця болей не спазнаем,
Бо на карку бабу маем.
А калі б хто з нас захоча
Глянуць смела бабе ў вочы
Ды у рукі цягу хваце –
Зробе толькі пекла ў хаце.
Бо яшчэ той не радзіўся,
Хто бы бабе спрацівіўся.
Баба верх заўсёды мае –
За чупрыну нас цягае.

*Першы беларускі гумарыстычны каляндар на 1931 год.*
*Вільня. Выдавецтва У.Знамяроўскага*

**Евгений Хлебцевич**

# В Ясной Поляне

## На великой могиле

От станции Засека Москов.-Курской жел. дороги я шел пешком по шоссе - верст 6-7. Кругом широкая, освежающая роща из лип и дубов.

Где-то вдали раздается трель и щелкание соловья, замирая в глубине рощи. Дорога сначала под гору, затем нечто вроде перевала и опять взгорье. И вот здесь, недоходя до яснополянских ворот, стоит белый столб. На дощечке изображена стрелка и написано: “На могилу”!

Невольно сразу тянет на великую могилу.

Долго идешь, поворачивая направо, минуя усадьбу. Точно великий учитель хочет приучить тебя к исканию… Все лесом идешь, идешь, глядишь – и ничего не видно.

Наконец, на пути перекрещиваются дороги и опять второй столб; “на могилу”, как бы поддерживает вашу бодрость в искании и зовет к зеленому кургану.

И вот виднеется деревянная ограда. Самая простая. Подходишь ближе и вдруг тебя что-то останавливает. Какое-то очень хорошее, непонятное чувство овладевает тобой. И так хорошо! Не хочется уходить.

Трудно передать словами свое душевное состояние. Надо непосредственно побывать там.

Великий учитель Л.Н.Толстой, слившись душою с бесконечным началом любви в людях, телом слился с землей, которой отдал все свои силы. Слился с той самой землей, которой отдал свои силы, всю жизнь, всю любовь к народу, завещав эту землю крестьянам…

Зеленые дубы, выросшие на месте зеленой палочки, приняв верного сына земли и народа, приютили его под своими ветвями.

Могила как-раз в *середине старых сросшихся* дубов. Точно венец *живых* деревьев окружает ее и как бы уготован был самой природой!

И, сплетая корнями великую могилу, деревья меланхолично кивают ветвями.

Лес протяжно шумит, угрюмо колышется, точно силясь выразить длительное горе.

Среди деревьев, обнесенных оградой, растут маленькие елочки, как будто вырастают из той самой зеленой палочки…

Деревянная ограда вся испещрена трогательными посвящениями Л.Н.Толстому.

Имеются надписи на японском, еврейском, французском и др. языках.

Курган с зарытой палочкой и зеленая могила на нем так сильно действуют на вас среди безлюдной рощи, что естественно излить свои чувства в посвящениях.

При мне даже, одна посетившая могилу женщина, несмотря на свою беременность и несмотря на свою детвору, резвящуюся возле нее, подошла к ограде и быстро вырезала слова: "Спи спокойно, дорогой учитель".

Вглядываюсь в ограду и вижу массу надписей. Вот – чувства, пробужденные у людей могилой Л.Н.Толстого в надписях: "Спи, дедушка Л.Н., отстрадал свои часы и минуты, видно и нам здесь без тебя страдать суждено". "Великий учитель мира, твоя любовью звучала лира". "Не говорите мне – он умер, он живет". "Спи, покойся, дорогой учитель! Память о тебе – светлый луч нашей жизни". "Поклоняюсь великому учителю".

Очевидно, пишет малоросс-крестьянин: "И мини прешлося побачиты великого могилу. Почывай велыкий старче". И дальше: "И пусть у гробового входа младая будет жизнь играть и равнодушная природа красою вечною сиять".

"Не померкнет солнце, не умрешь и ты". "Спи, Л.Н., и возьми меня с собой".

"Великий! Прости меня, что я при жизни ненавидел тебя".

"Дорожите впечатлением, произведенным могилой и храните в сердце своем".

"Л.Н., я столько добивался поклониться праху твоему и желаю тебе *царстве небесно*, " – от крестьянина.

"Хоть помер ты, великий человек, но память о тебе в нас будет целый век. Крестьянин Владим. губ.".

"Я тронут душевно твоей могилой, желаю покоя тебе".

"Могиле твоей преклоняюся милой <...>. Вы избрали мирную рощу, которая вечно шумит и силится выразить Вашему праху,

великой святыне, тяжелое горе усталой России – “посетил народный учитель ”.

“Я вернулся к тебе, не отвергни. Прости. Я покорен мечте неизбежной. Я вернулся к тебе, чтоб с тобой пойти к тебе, чтоб с тобой пойти к высшей красоте безмятежной”.

“Воскресни! Пойдем к неизведанным дням, освещая отставшим дорогу. Создадим на горах человеческий храм, чтоб молиться безсмертному Богу”. “К тебе пришли с вершин Алтая”.

“Чтили, чтим и будем чтить своего учителя”.

“Истинно желающая побывать на Вашей могиле и наконец исполнила свое заветное желание поклонница Ваших творений - Мария”.

Так волнует великая могила посетивших ее. За могилой присматривает ученик Л.Н. еще из его школы (яснополянской) Тарас Фоконов. Александра Львовна поручила ему, как любимому Л.Николаевичем человеку, глядеть за могилой.

Встретив его возле могилы, я начал спрашивать его о Л.Н.Т.

- Такой легкий, такой легкий человек был Л.Н., б-а-льшой шутник, – отвечал мне Тарас.

- Куда бы я ни забрался в лесу – дрова рубить – и всегда Л.Н. так и вынырнет пред тобой как из земли!

Так и вынырнет! Легкий был человек.

Затем мне пришлось отдыхать на скамеечке у исторических яснополянских ворот. С левой стороны домик садовника Л.Н.Толстого.

Спрашиваю жену садовника: “Видели ли Вы Л.Н. задолго пред уходом из Ясной Поляны?”

- Сегодня в 12 часов дня видела, а ночью в 5 часов он уехал на паре в дышлах.

Целый день ходил по лесу, сидел в избах, оставлял завещание на словах.

- Какое завещание?

- Он завещал крестьянам не переходить на отруба и вот земский приезжал и уговаривал крестьян перейти на отруба. Крестьяне отказались. “Граф не велел,” – так и все сказали земскому и не перешли.

- А сильно ли потрясло крестьян Ясной Поляны событие ухода Л.Н.?

- Чего-то много, много потеряли – отвечала особенным тоном.

- Что-то в роде утраты близкого человека?

- Больше. Ну, еще сильнее стала повторять садовница: "Чего-то много, много потеряли".

Чего-то много, много. "Все струсили". Крестьяне не находили места, менялись. И теперь еще не прошло.

"Казалось, мой муж не ел три дня". Потеря касалась самой необходимой, самой живительной стороны их жизни.

А садовник, родом эстонец, вон что поведал мне.

- Еще 18 лет я читал сочинения Л.Н. Мечтал все время увидеть Л.Н., и вот судьба привела меня сюда на службу. Часто Л.Н. приходил ко мне, сам, говорил о разных вещах. Я же на задавал ему вопросов, жалел его… Вот я тут живу у ворот и вижу, как *ежедневно* к нему приходят не меньше 50 нищих, и всем им Л.Н. давал по 5-10 коп. А что Вы сказали про отношения семейные?

- Софья Андреевна называла его "Левочка", а он ее "Соня". Очень вежливо она ухаживала за ним.

Не знаю больше, ничего не видел: а когда Л.Н. уехал и заболел, мы знали, что малая простуда делала его больным и малое волнение тоже делало его больным, а тут и болезнь и волнение…

Хотя мы и не хотели верить, что он не вернется к нам. Крестьяне ждали. Каждая телеграмма из Остапово ударяла как ножом в сердце. Теперь кажется, что вот спускается Л.Н. с горки, где усадьба… И иногда не веришь, что он в могиле там, где зеленая палочка.

Вообще, все крестьяне Ясной Поляны почувствовали, что кто-то вынул душу из них. Слова их полны безмятежной печали, прозрачной любви к Л.Н.

Ведь Л.Н., граф-мужик, величие народа находил в его душевной простоте! Л.Н.Т. так сжился с народом, устраивал школы для детей и сам учился у них.

Земной поклон Л.Н.Толстому – тому самому Толстому – великому учителю правды и *всечеловечной* любви.

Земной поклон учителю бесконечной любви, пред могилой которого *все* человечество склонилось с трепетом душевным, сознавая всю правду и живительность деятельной любви единения и братства!..

*Ясная Поляна, 8 июня*
*Нашъ край. Брест-Литовскъ. 12 июня 1912, №91*

**Евгений Хлебцевич - В.Г.Черткову**

№1

[1912 г.]
с.Кленики, Бельского уезда

Многоуважаемый Владимир Георгиевич!

<…> Я не приехал в Ясную Поляну просто для души и не имел в виду собирать сведения для газеты. Хотел одно – передать своим землякам все то, что так привлекает людей на могилу Л.Н. и кое-что о той живой любви народа к Л.Н., какой одарил меня народ. Я чувствовал, что окружающие Л.Н.Т[олстого] люди после смерти Л.Н.Т. еще более сильно и неразрывно с ним связаны, а это представляет реальную картину всечеловеческой любви – того вечного, живого, радостного «всего», с которым так органически спаяны все его составляющие – весь мир людской и даже более того – весь мир бессмертной и такой живительной идеи <…>

Хотя я так мало знаю, но все же я думаю и думаю, что фельетон мой – непосредственное впечатление в связи с тем, как я понимаю Л.Н.Т. и как мне хочется частицу этого понимания передать другим.

Посылаю Вам, Владимир Григорьевич, этот фельетон «В Ясной Поляне». Если же возникнут какие-либо сомнения в правильной передаче того, что было, прошу простить. Газету «Наш край» посылаю бандеролью.

С искренним уважением и приветом Евгений Хлебцевич.

с. Каленики, Бельского уезда, Гродненской губернии.

№2

2/ I. 1915

Глубокоуважаемый Владимир Георгиевич!

В «Киевской мысли» 1/ 1. 1915 читал статью г.Козловского о выпущенных Вами «Дневники Л.Н.Толстого».

Интересуясь русской литературой и Толстым в особенности, я радуюсь Вашей всегдашней религиозной душевности в отношении ко всем творениям Л.Н.Толстого, в отношении «Дневников» - Вашей тонкой и умной редакции.

Теперь, по окончании университета, я как ратник-ополченец попал на войну. И работаю с удовлетворением в качестве военного фельдшера. Для развлечения и душевного отдыха – в свободные минуты – занимаюсь изучением русской литературы. Кроме личности Л.Н.Толстого меня интересует его язык и прием художественной интуиции (сравнения, образы и проч.). Прав С.А.Венгеров, утверждая, что мировой характер русской литературы обусловлен синтезом вечных идей (истины, правды, красоты, добра) с художественно соответствующей формой. В Л.Н.Толстом наиболее ярко это выражено в детализации. Вот я прошу Вас, если Вас не затруднит, прислать мне 1) «Дневники», 2) посмертные произведения (5 томов) и 3) то, что освещает этот вопрос. Вы сами лучше знаете, какие произведения Толстого представляют такой синтез (наиболее ярко). Буду Вам очень признателен. Денег у меня нет, жалование – солдатское. После войны возвращу, если буду жив.

Адрес: п.ст. Полонное Волынской губ.
Управление этапного коменданта,
Фельдшеру Евгению Хлебцевичу

*Российский государственный архив литературы и искусства (РГАЛИ). Ф.552. Оп.1, ед.хр. 2743а, л.л.3; 7. Автографы.*

*Снежаньскім апоўднем 1991 г. у светлай зальцы “Дома Растовых” – колішняй сядзібе Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў – адбыліся Багдановічавы чытанні, ладжаныя Институтом мировой литературы им. А.М.Горького (ИМЛИ) з нагоды 100-леццця аўтара нятускнага “Вянка”.*

*Выступілі пісьменнікі, літаратуразнаўцы – Алесь Адамовіч (Всесоюзный Институт кинематографии), Уладзімір Конан (Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны), Святлана Аліева, Г.Міцін, А.Каўка (ИМЛИ), Тацяна Сотнікава (Литературный институт). Рэзюмэ выступленняў, пасля 20-гадовае вымушанае затрымкі падаюцца ніжэй. Прамова Алеся Адамовіча занатавана з стэнаграмы паседжання.*

*Вечарына пад юбілей другога нашага класіка Уладзіміра Караткевіча, адбытая ў лістападзе 2010 у чытальні Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, паспрыяла “Скарынічу” артыкулам А.Вераб’я. Сюды ж напрошваецца і праніклівая нататка расійскага крытыка пра “Сівую легенду” беларускага пісьменніка.*

*А.К.*

* * *

**Алесь Адамовіч**

## Паэт-дзіця

Так здарылася, што Гаспод дачасна забраў ад нас гэтага дзівоснага творцу, ды застаўся ён для нашага народа самым любімым паэтам. Бывае ж і ў сям’і самае любімае дзіця. Так і пра Багдановіча можна сказаць: паэт-дзіця. І як дзіця – бязгрэшлівы, чысты, празрысты ў сваім светаўспрыманні, Багдановіч любіў задаваць пытанні. Згадаю верш “Я хлеба ў багатых прасіў і маліў…” з ягонаю канцоўкай: “”Што будзе, як дрогне, як рухне яна? Каго пад сабой пахавае?“ Такі верш з такім запытаннем маглі напісаць і Янка Купала, і Якуб Колас. Але ўжо вобраз – “цвяток радзімы васілька” стварыць мог толькі Максім Багдановіч. Колькі, памятаецца, было эстэтствуючага бурчання: як гэта – васілёк, пустазельле і ухваляць? А гэты “васілёк” ёсць тое хараство

цудадзейнае, якое так любіў і патрапіў нам пераказаць сваю любоў Паэт. Дастаеўскі гаварыў – “красота спасет мир”. Уратаваць свет краса мо й не ўратуе. Але тое, што яна ратуе душу чалавека – з гэтым не пагадзіцца нельга. Дык вось Багдановіч і быў тым, хто ратаваў прыгожае, вечнае, ратаваў душу народа.

Цяпер на нашых вачах бурыцца імперыя, самавызначаюцца на падставе ўласнае дзяржаўнасці народы. Будуе і Беларусь сваю дзяржаўнасць, незалежнасць, прычам на тэрыторыі, напічканай ядзернымі боегалоўкамі. Мне здаецца, сама гісторыя вызначае Беларусі сваю асаблівую місію: выбавіцца ад гэтага імперскага цяжару, ачысціўшы сваю зямлю ад ядзернага патэнцыяла, падаўшы практычны прыклад у гэтай справе і Расіі, і іншым.

Як гэта ўсй звязана з Багдановічам – не ведаю, але лічу, што звязана з Паэтам, які клапаціўся за тую прыгажосць, што ратуе душу. Калі ж душа ўратуецца – жыць будзе і ўсё астатняе.

**Генрих Митин**

## Откровение любви

Истинная поэзия – речь о земле и небе; нарушение этой связи (в любую сторону) оборачивается антипоэзией, не спасает даже гениальность. Максим Богданович писал о земной любви, за которую не стыдно перед небом. Его творческий путь выпал на десятилетие 1907-1917, когда в философии и прозе России обозначился отход части интеллигенции от материализма и марксизма к идеализму (богоискательство и богостроительство). Но поэзия шла своим путем. Без Христа и без креста писал изысканный В.Брюсов, кончивший одами в честь Октября. Самый популярный «певец любви» К.Бальмонт был безучастен к духовному смыслу любви, воспевая «землю» страсти: «Хочу упиться роскошным телом, хочу одежды с тебя сорвать». Отсюда его декларация: «Я люблю тебя, дьявло, я люблю тебя, бог». У Бальмонта самцы дерутся за самку – вот символ его «любви». Даже А.Блок писал о женщине как о кошке, которую хочется ударить.

Принципиально иное отношение к женщине и любви в поэзии М.Б. Для него женщина – реальная Богородица, дева-мать, единство земли и неба: «В единстве двух начал – «гармонии венец»

(цикл «Мадонны», 1913). Замечательный цикл «Любовь и смерть» стал воистину христианской поэмой, откровением любви. Трагическое звучание позволяет определить его как реквием любви. Смерть любимой ведет поэта в Храм, где душа воспаряет и утешается. «Костел св. Анны в Вильне» (1913) явно противостоит «Девушка пела в церковном хоре» Блока (1905). Пустоту, холод и мрак жизни у М.Б. просветляет образ Христа с «Вещим взором своих воскрешающих глаз». На фоне роковой бездуховности тогдашней поэзии творчество М.Б. заставляет вспомнить образ его сонета 1912 года: чистую лилию «среди болотной плесени и гнили». Возможно, что и сам поэт «примеривал этот символ к себе».

**Уладзімір Конан**

## Астральная сімволіка ў творчасці Максіма Багдановіча

“Па за сімвалізвам няма паэзіі”, - гаварыў В.Брусаў. Як на маю думку, не толькі паэзія, але і ўсё мастацтва, уся культура сімвалічная па сваёй сутнасці, бо выяўляюць духоўны сэнс рэчаў, з’яў і вобразаў, увасоблены ў пэўную “знакавую сістэму”.

Лірыка Максіма Багдановіча адкрыла ў беларускай паэзіі эстэтыку змяркання, вечаровага, начнога і зімовага “іпастасяў” быцця. Традыцыйна ў ёй замацаваліся (ад фальклору) вобразна-сімвалічныя апазіцыі тыпу: ранак-вечар, дзень-ноч, вясна-восень, лета-зіма. Першыя звенні гэтых кантрасных вобразаў сімвалізавалі жыццё і адраджэнне, надзею і веру, а другія, “зімова-начныя” вобразы – роспач, заняпад, уміранне, пакуты. Паэзія М.Багдановіча – пераважна зорная, астральная, у ёй – малюнкі-успаміны “знікшага дня” і вітанне “таго дня, што мае нарадзіцца”. Яна гучыць песняю ірэальнага начнога і зімовага жаваранка (“Добрай ночы, зара-зараніца”, “Блішчыць у небе зор пасеў”, “Зімовая дарога”, “Падымі ў гару сваё вока” і інш.). Ёсць у ёй глыбокі падтэкст: бо ноччу забывае свае драбозкія клопаты, далучаецца да вечнасці, прагне духоўнасці.

“Ціхая, сіняя ноч” – вобразны лейтматыў ягонай паэзіі. М.Багдановіч радыкальна змяніў нашыя ўяўленні пра начную шэрасць і цемень, пра зімовую аднастайнасць, адкрыў у начным і

зімовым быцці мноства каляровых адценняў і музычных паўтонаў. Адкрыццём паэта стала арганічнае знітаванне двух пачаткаў лірычнай паэзіі – выяўленча-жывапіснага, “малюнкавага” – і музычнага, песеннага. Паэтычны сімфанізм – выдытная асаблівасць яго лірычных цыклаў, асабліва ў цыклах “Лясун”, “Вадзянік”, “Змяіны цар”. У апошнім выявілася глыбокая астральная сімволіка. Пільным вокам мастака Багдановіч убачыў у міфалагеме “Змяіны цар” амбівалентную, “зорка-зямную” сімволіку.

Але ёсць у яго астральнаяй паэзіі яшчэ іншы, “усяленскі” сэнс, які афарыстычна выяўлены ў біблейскай кнізе Іова: “Чалавек нараджаецца на пакуты, як іскры, каб паднімацца ўверх”. Яна сімвалізуе духоўны пачатак жыцця, духоўнае адзінства чалавецтва. Пра яго – верш “Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…” Яго сэнсавая сутнасць – у заключных радках: “Нашто ж на зямлі // Сваркі і звадкі, боль і горыч, // Калі ўсе мы разам ляцім // Да зор?”

**Светлана Алиева**

## Урок Богдановича

Максим Богданович – начало XX столетия. Мечты, чаяния, творческие устремления, суждения благородного и талантливого человека, искренного в молодом порыве сохранить, упрочить и донести большому миру национально-духовное достояние белорусского народа. Протестуя против ассимиляторского давления, или, как он выражался, «овеликорушения народа», ведущего лишь к искажению, уродованию национальной души, он подчеркивает, что лишение родного языка ведет любой народ к культурно-языковому оскудению, замораживанию его духовных потенций. Эта мысль, а в сущности пророческое предупреждение с поразительной злободневностью откликается сегодня, на исходе «советской» истории, перемоловшей этносы былой великорусской империи, отработавшей их с бездушием, превосходящем жестокость компрачикосов.

Национальная и прислуживавшая ей культурная, выстроенная Сталиным политика действительно, как и предсказывал М.Богданович, привела к «растрате результатов громадной, многовековой духовной работы» целых народов. И каждый из них

может сегодня повторить слова белорусского писателя-мыслителя, написанные им в 1915 году: «Коренное переустройство отношений к национальной жизни населяющих Россию народностей – такова одна из наиболее настоятельных наших государственных задач…». Столь же актуальны и злободневны его мысли о гарантиях прав национального меньшинства, о праве каждой нации на независимое политическое существование.

Максим Богданович – сам по себе яркое явление национально-возрожденческих чаяний белорусского народа, выступает также символическим воплощением живучести, неистребимости национальной идеи, всколыхнувшей и поднявшей к новому национально-культурному возрождению народы бывшего СССР,

**Татьяна Сотникова**

## Лирическое самосознание поэта

Самосознание поэта – столь многогранная проблема – философская, литературоведческая, историческая – что я предполагаю рассмотреть лишь один ее аспект. Например, не коснувшись вопроса о национальном самосознании в связи с самосознанием поэтическим, хотя в творчестве Богдановича это соотношение выражено емкой формулой: “Як кожны народ мае сваю нацыянальную душу, так ён мае і свій асаблівы склад (стыль) творчасці, найбольш прыдатны да гэтай душы”. (“Забыты шлях”).

Цельность и раздробленность поэтического мира – эта противоположность представляется особенно существенной, когда речь идет о Богдановиче. Избегая тривиальных сравнений, следует все же отметить, что именно в этой сфере наиболее ощутима противоположность М.Богдановича А.Блоку (несмотря на то, чо их роль в национальных литературах принято уподоблять). “Дробление культуры”, в том числе внешнее – на жанры, направления – трагически ощущалось Блоком как признак упадка (статьи “Крушение гуманизма”, “О назначении поэта” и др.). У Богдановича тот же термин употребляется в прямом смысле: под “дроблением культуры” (статья “Белорусское возрождение”) он понимает лишь ее дифференциацию, самоопределение белорусской, украинской и других славянских культур. Это

отсутствие трагических предчувствий также может быть понято как примета внутренней цельности художника.

Не менее очевидна эта цельная черта поэтического сознания и в тех стихах Богдановича, в которых природа и душа поэта живут в одном ритме (“Перад паводкай”). В русской литературе после “Войны и мира” (“встреча” князя Андрея с дубом) это единство существует больше как желаемое, чем как непреложная данность.

Именно вследствие неразьятости внутреннего мира, для Богдановича характерно “называние” как полноценный художественный прием (“У краіне светлай…”).

**Алексей Кавка**

## Всемирность национального

Всемирное значение М.Богдановича в его белоруском мировосприятии, национальной сострадательности, питавших будительный, возрожденческий пафос поэта-“нашенивца”. И особенно – в “Погоне”, в символических рыцарях, настигающих на вспененных скакунах отреченцев Родины-Беларуси. “Не давайце чужынцами быць!” Батрачество по чужим языкам и культурам, “бездомность” в собственном дому. По ней, злокачественной национальной опухоли, сечет разящее и целительное слово Поэта-врачевателя. Но только ли белорусская эта драма духовных блужданий и заблуждений сынов Отечества, улегающих за призрачными соблазнами, при небрежении своими исконными сокровищами? Вопрос явно риторичен на фоне культуротворческого недомогания, внутреннего рабства, донимающих современную цивилизацию, но все время пробуждающих в людях возрожденческие очистительные порывы.

На сурово праведный рисунок “Пагоні” контрастом накладывается общая, светло-печальная элегическая лира Богдановича: те удивительные узоры родной природы, мастерски отчеканенные миниатюры о славной истории народа, образы легендарных ратников, строителей-ваятелей, книжников-светителей, пленительность «Слуцких ткачих» и «Мадонн», к небесам и звездам устремленных людей и храмов. С душевным трепетом и волненьем взирая на эту земную и космическую

воклічаў здзіўлення і ўдзячнасці нямаведама за што. Славутая Чырвоная плошча здалася няўклюднай, недагледжанай і пуставатай, а храм Васіля Блажэннага на ёй рабіў ураджанне выпадкова забытай нейкім багатым князем ці баярынам прыгожай цацкі з далёкіх казачных часоў…

Пазней я, безумоўна, разгледзеў і ацаніў і велічнасць крамлёўскай сцяны, і прасторную стрыманасць вуліцы Горкага, і ранішнія зацішныя прысады Сакольнікаў, і вячэрнія прыцемненыя агні Вялікага тэатра, і маладую разняволенасць Вераб'ёвых гораў. Пазней святымі для нас сталі Новадзевічыя могілкі і паўзабытыя "талстоўскія" ды "булгакаўскія" мясціны. І сваім, утульным і нават хатнім, стаў ЦДЛ (Цэнтральны дом літаратара), дзе можна было зблізку ўгледзець паўнаватага, недаступнага Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага і па-юнацку стройнага, парывістага Канстанціна Міхайлавіча Сіманава, мілага, інтэлігентнага Алеся Цярэнцявіча Ганчара і ўсмешлівага, дабразычлівага Мустая Сафіча Карыма, асляпляльна прыгожую, незямную ў паэтычным парыванні Бэлу Ахмадуліну і губастага, рашучага і ўпэўненага Роберта Раждзесцвенскага. А ў рэстаране можна было апынуцца за адным сяброўскім сталом з іранічным, нахохленым Міхаілам Святловым ці змрачнаватым і мужыкаватым Яраславам Смеляковым, які пасля чарговай чаркі мог выцягнуць з кішэні стары, зашмальцаваны пашпарт і паказаць запіс, што родам ён з Сенненскага раёна Віцебскай вобласці… Колькі там прагучала бліскучых экспромтаў і нечаканых прызнанняў, горкіх успамінаў і бязлітасных спрэчак! Якое гэта было "піршаства духу" і сапраўды братняе яднанне талентаў! Непрыкметна і натуральна, пад звон кілішкаў і хмельныя спавяданні, блукалі там вальнадумныя настроі і ідэі, што пасля гучна назваліся "адлігай" і "перабудовай"…

А хіба я магу забыць доўгія вечары ў гатэльных нумарах "Масквы" і "Расіі" з Віктарам Астаф'евым і Дзмітром Паўлычкам. Ніякія разумныя падручнікі і ўніверсітэцкія лекцыі не маглі даць такога глыбіннага адчування гісторыі і характару расійцаў і ўкраінцаў, як мудрыя і бязлітасныя развагі гэтых двух выдатных майстроў мастацкага слова. Мажа, якраз светлай памяці Віктар Пятровіч прывучыў мяне заўсёды спачуваць затурканаму і скалечанаму жыццём так званаму простаму чалавеку, на якім урэшце і трымаецца ўсё ў гэтым зусім не лепшым свеце. А без

Дзмітра Васільевіча я так глыбока не зразумеў бы ні трагедый нашых паўднёвых суседзяў у трыццатыя і саракавыя гады мінулага стагоддзя, ні шчымлівага адчаю шаўчэнкаўскіх вершаў і журлівых песень-дум сівабародых кабзароў. І было ж яшчэ сумоўе з негаманкім, строгім літоўцам Юсцінасам Марцінкявічусам, з чарнавокім, неспакойным малдаванінам Паўлам Боцу, з маўклівым, загадкавым латышом Марысам Чаклайсам, з паважным, удумлівым казахам Алжасам Суляйменавым… Як спявалася ў папулярным некалі фільме “Свінарка і пастух”, “пазнаёміла нас, падружыла” белакаменная і чырвоназорая Масква.

Тут збіраліся мы на тлумныя пісьменніцкія з’езды і пленумы, на ўрачыстыя афіцыйныя паседжанні і канферэнцыі і проста на рабочыя абмеркаванні ў рэдакцыях часопісаў і выдавецтваў. Тут усіх нас яднала і вучыла вялікая руская мова, пераклады на якую давалі не толькі шчаслівую магчымасць сачыць за поспехамі адзін аднаго, а і выводзілі ў шырокі еўрапейскі свет.

Па розных справах бываючы ў Маскве, я абавязкова пакідаў хаця б адзін вечар, каб зазірнуць на вуліцу Чарняхоўскага да ціхага, уважлівага Якава Аляксандравіча Хялемскага ці на Бегавую – да шумнага, кампанейскага Рыгора Куранёва. Не ведаю, як каму, а мне іхнія таленавітыя, беражныя пераклады дапамагалі часам знайсці ў сваіх радках і тое, што не заўсёды заўважаў сам…

Цікава, што якраз з Масквы, з глухіх цэкоўскіх і кадэбісцкіх кабінетаў ляцелі штогод да нашых мінскіх старанных і дысцыплінаваных чыноўнікаў грозныя дырэктывы і інструкцыі па выхаванні мясцовай інтэлігенцыі ў духу пралетарскага інтэрнацыяналізму і бязлітаснай барацьбы з хітра схаванымі антысаветчыкамі і рознымі сепаратыстамі і нацыяналістамі, і менавіта сюды ад самадурства правінцыйных ідэалагічных цэрбераў уцякалі найбольш светлыя і смелыя таленты навукі і літаратуры. Сюды, ратуючыся ад гневу ашалелых сталіністаў, збег Алесь Адамовіч. Сюды па падтрымку і абарону прыязджаў Васіль Быкаў, калі дома цкаванне рабілася невыносным, а рукапісы новых аповесцяў пільнымі цэнзарамі вышкрабаліся і выстрыгаліся да поўнай “стэрыльнасці”. Хоць геаграфічна Мінск намнога бліжэй да Еўропы, дысідэнцтва і славутага плюралізму ў Маскве тады было значна болей і праламіць каменную сцяну тупых забарон і ахоўных страхаў тут удавалася часцей. Дарэчы, мне здаецца ў пэўным сэнсе сімвалічным, што збалелае, неспакойнае сэрца Алеся Адамовіча

заўчасна разарвалася ў будынку аднаго з маскоўскіх судоў, дзе ён з усёй сілай сваёй перакананасці і выбуховага тэмпераменту бараніў маладую дэмакратыю. Свядома безразважна паклаў ён жыццё на алтар справядлівасці і праўды – "за нашу і вашу волю" і назаўсёды вярнуўся ў родную Глушу на Бабруйшчыне, да магіл бацькоў, так і не сустрэўшы шчасця каля непрыступных крамлёўскіх вежаў…

Сёння Масква інакшая, яшчэ больш купецкая і амбіцыйная, шматлюдная і шыкоўная, тлумная і жорсткая. Няма ўжо гатэля "Масква", дзе загадкава трагічна загінуў Янка Купала, няма тых цесных і беднаватых кавярняў, куды мы забягаліся адкрыць адзін аднаму душу з Андрэем Вазнясенскім і Рымай Казаковай, Валянцінам Аскоцкім і Лазарам Лазаравым. Ды і іх ужо няма на гэтым свеце, бяздумна-вясёлым і бязлітасна-прагматычным. Няма кніжных развалаў, дзе можна было знайсці дарэвалюцыйны томік Лермантава ці неразрэзаны раман Мяражкоўскага. Цяпер усё завалена таннай дэтэктыўнай макулатурай графаманістых сталічных дамачак і рознакаляровымі дыскамі безгалосай сталічнай папсы, а з вялізных рэкламных плакатаў і бігбордаў самазадаволена ўсміхаюцца то непрыстойна растлусцелая прымадонна эстрады, то зарослы модным шчаціннем алігарх з юрліва прыжмуранымі алавянымі вочкамі. Яшчэ больш мітусліва бегаюць у канцылярскіх калідорах вышкаленыя клеркі, яшчэ больш адкрыта размахваюць запыленымі імперскімі сцягамі вялікія і малыя начальнікі, і ўсё далей і далей ад удзірванелых прыволжскіх палёў і струхлелых смаленскіх хат ляцяць, вальяжна пагойдваючыся, запушчаныя з Чырвонай плошчы асляпляльна яркія паветраныя шары прапагандысцкіх усхваленняў і прыгожых дзяржаўных абяцанняў…

Не мая гэта Масква, не мая – сучасная, багатая, дзелавая, упэўненая, раскутая, гордая, цынічна-заклапочаная. Магчыма, такой яна і павінна быць у нашы акаянныя, суровыя дні. Магчыма, якраз такой яе і любяць сённяшнія авантурысты і касмапаліты і іхнія ўсемагутныя рэспектабельныя шэфы і босы. Хто ведае, можа, так яно і павінна быць і гістарычна нават апраўдана. Толькі ў "маёй" Маскве было болей мяккай славянскай душы, было болей вярэдлівага сумлення і куды болей дарагіх мне людзей, нават калі я некага асабіста і не ведаў…

І ўсё ж я кажу Маскве дзякуй за тое, што яна была ў маім жыцці і жыцці маёй роднай зямлі і фактам свайго існавання не раз

будзіла ад балотнага правінцыйнага сну і вымушала думаць, а то і зацята змагацца за нашу прыспаную нацыянальную гордасць…

Я разумею класіка, які аднойчы ўзрушана ўсклікнуў: “Масква! Як многа ў гэтым гуку…” І для мяне таксама многа самага рознага злілося ў гэтым з дзяцінства звыклым і да канца не разгаданым гуку…

**Валеры Казакоў**

## “Ды ўваскрэсне Бог…”

(Крыж Еўфрасініі, другая частка)

– Не твая праўда, браце, не твая! – месцанадзорнік ускочыў з крэсла, раззлавана матнуў рукой і засноўдаў па прасторнай зале, цэнтр якой займаў велізарны абедзенны стол, старадаўні і дыхтоўны, як і ўсё начынне гэтага непрыкметнага асабняка ў Чыстапрудным завулку сталіцы, якая губляе сваё гістарычнае аблічча. На цёмнай стальніцы неяк ненатуральна самотна стаялі два чайныя прыборы з ружаватай кітайскай парцаляны, мудрагелістая цукарніца ЛФЗ часоў развітага сацыялізму і нізкая срэбная талерка з хатнім печывам. Талерка прыпадабнялася да стала: масіўная, разлапістая, насуплена зіхцела даўнінным срэбрам. Гэты прадмет сервіроўкі, мабыць, адзіны не выбіваўся з вакольнага інтэр’еру.

“Бач ты, яшчэ і сляды Найсвятога не пабляклі ў гэтых пакоях, а ўжо нейкі пярэпалах у чайнай цырымоніі. Усё ў разнатык, – з уздыхам падумаў мітрапаліт Філафей, хаваючы здрадліва-дрыготкія рукі пад шырокую сівую бараду. І што ўжо я яму такога сказаў? А наваліўся, наваліўся ж як…”

– Хопіць, ласкавы наш Філафей, вочы патуляць! – спыніўся ў куце Кіпрыян, – паспрабуй патлумачыць, што гэта значыць: “Жэрабе Гасподняе ўсё вырашыць”? Ці не страціў ты розум, браце, кідаць на пасмешышча такую працу, такія здзяйсненні! Ці ты вырашыў на ўсё забыцца і перафарбавацца пад прастака? Ды не маўчы ты! – ён капрызна тупнуў нагой.

“Бач, як цябе, небараку, страсці круцяць. Таго і глядзі – у вуха мне заедзе… – Асцярожна, нібы тоячыся, праслізнула крамольная думка, іерарх нават спалохацца яе не паспеў. – Што ж гэта мяне спакусіла ляпнуць пра гэтае трыклятае жэрабя! Эх, язык мой паганы... – мітрапаліт павольна пачаў паднімаць сваю прыгожую і годную галаву; доўгая сівая барада, падзеленая па сяродку яшчэ цёмнай, не пасівелай пасмай, нібы ўзнятая заслона, здрадліва агаліла дрыготкія рукі. Тыя яшчэ з семінарскіх часоў былі яго Ахілесавай пятой: варта было яму толькі ўсумніцца ў праведнасці свайго ці чужога слова, учынку, справы, а то і намеру, як тонкія пальцы пачыналі падрыгваць. – Не хапала яшчэ, каб ён заўважыў маю збянтэжанасць”. – Філафей паспешна склаў рукі.

– Дык жа такая традыцыя і каноны царкоўныя: ці жэрабя перад Святым Аблічам, ці шары белы і чорны. Такая традыцыя, і не намі яна заведзе…

– Бачу я, Філафей, не жадаеш ты мяне зразумець і пачуць! – абарваў яго на паўслове месцанадзорнік, пругка, нібы натрэніраваны спартовец, падскочыў да стала, упёрся рукамі а край і навіс над прыпалоханым суразмоўцам. – Не магу цябе зразумець! Ты ўсё ж са мной – ці не? – рудыя вочы гарэлі разадзьмутымі вуглямі, наздрыны нейк раз’юшана торгаліся, акладзістая купецкая барада тырканулася наперад, нібы невядомая зброя. – Мне з раніцы данеслі, што ты ўчора ўвечары, пасля нашай гутаркі, кантачыў з Уладзімірам… Можа, перакінуцца вырашыў? – Кіпрыян рашуча адпіхнуўся ад стала і выпрастаўся ва ўвесь свой немалы рост. – Ну, адказвай.

Рукі перасталі дрыжаць, і Філафей выразна адчуў, што грозны ўладыка, які скалынае “воздуха и тверди”, проста баіцца наведніка і цалкам залежыць ад яго, Філафеевай, пазіцыі. Звыклы за доўгае царкоўнае жыццё ўзважваць і хаваць ад староннiх не толькі свае словы, учынкі, але нават і думкі, ён павольна ўстаў і, гледзячы прама ў вочы свайму візаві, ціхім голасам прамовіў:

– Усе нашыя дамоўленасці застаюцца: я паспрабую адцягнуць на сябе галасы найбольш радыкальных япіскапаў, а наконадні галоўнага вызначэння зніму сваю кандыдатуру ў вашую карысць. Я, уладыка, вам на гэта крыж учора цалаваў. Пра якія сумневы можа быць гаворка? Што да Уладзіміра, то быў я ва ўладыкі ўвечары, сапраўды быў, і гутарку меў з ім працяглую з прапановай паўплываць на вас і схіліць да самаадводу ў імя выратавання нашай маці Царквы…

– Дык вось яна га́дзіна, прыгрэтая намі ля стальца! Можна падумаць, ён гэтае выратаванне? – уладыка пачаў шнураваць па пакоі. – Ну і што ты яму, браце, на гэта адказаў? – не спыняючыся, як бы не без адмысловай цікаўнасці кінуў ён Філафею.

– Ну а што мне яму было адказваць? Праўду і адказаў: што ні ён, ні я, грэшны, ні хто іншы не здолее быць за стырном нашага шматпакутнага карабля, ні здароўя, ні сілаў, ні запалу нам на гэта не хопіць. Відаць, так ужо наканавана. Толькі, уладыка, трэба традыцый не парушыць…

– Дапільнуем мы тваіх традыцый, не хвалюйся, але галасаваць будзем праз урны. Вось Цэнтравыбаркам гатовы электроннымі

забяспечыць і дапамагчы арганізаваць падлік галасоў. Шары, жэрабе – гэта ўжо сярэднявечнае цемрашальства. Час адыходзіць, Філафей! – узрадавана ўскрыкнуў без пяці хвілін Патрыярх. – Паслухай, Філафей, а хочаш, я цябе святым зраблю? Ды пачакай ты ў бутлю сціпласці лезці, – жалезна абарваў ён схамянелага ўладыку. – О, я ведаю, як уславіць тваё імя ў тваёй мітраполіі! Усё, не пярэч, не дзякуй, друг ты наш душэўны! – Кіпрыян дастаў з кішэні падрызніка пазалочаную візітоўку з дыяментавым – ужо патрыяршым – вензелем. Хутка штосьці чыркануў на адвароце і працягнуў пахкую тонкімі духамі картку агаломшанаму Філафею. – Вось, патэлефануеш па гэтым нумары, прадставішся, скажаш, што ад мяне – і паедзеш, куды скажуць. Я ўсіх папярэджу. Лішняга там не балбачы, а галоўнае, пасля маўчы – і вечнае ўслаўленне твайго імя ў тваім смутным краі забяспечана. Давай, браце, лабызацца, ды я і пабягу. Прэзідэнт чакаць не будзе, а яго падтрымка таксама не зашкодзіць цяпер. А табе дзякуй, я дабро памятаю…

***

Памесны сабор гудзеў, як гуслі самагуды. Ва ўсякага выбарнага парафіяніна, святара, манаха, япіскапа ці проста цікаўнага, які прарваўся ў святая святых, былі свае меркаванні і развагі датычна будучыні Рускай Царквы. Царква, царква! Нібыта і Божае папушчэнне, а без страсцей чалавекаў ніяк ты абысціся не можаш! І дзеюцца справы нябесныя на ўсё той жа шматгрэшнай зямлі нашай. Так і хочацца выгукнуць: Госпадзь, за што ў слугаў тваіх такія мірскія клопаты?!

Гудзеў Сабор. Часовыя партыі то збіваліся ў стройны гоман і гатовыя былі стаяць на сваім да канца, то раптам, без бачных на тое прычынаў, рассыпаліся, “аки дом на песку побудованый”. Да абеда ці вечара ўчарашнія саюзнікі ўжо звярталіся да супернікаў і зноў абяцалі адзін аднаму быць вернымі новай платформе да сканчэння свету.

З прэтэндэнтаў на першасвятарскі сталец безумоўнымі лідарамі былі: Філафей – старэйшы і шматвопытнейшы іерарх (Яму большасць і прадказвала перамогу. Досвед, мяккасць, згаворлівасць, апантанасць веры і, што таксама важна, паважны ўзрост. “Дай Бог, годзікаў з пяць працягне, а там і на супакой ці і наогул у іншыя палестыны”. – Чаго хаваць, многія так думалі, асабліва з моладзі, прымяраючы на сябе ў будучыні Патрыяршы

куколь. “За гэтыя гадочкі якраз я і падрасту ды спрактыкуюся, сувязямі абрасту, ды і ўзмужнею крыху”); другім па справядлівасці ішоў мітрапаліт Уладзімір, улюбёнец і надзея памерлага Патрыярха, за ім стаялі манастыры і заўзятары веры з парафіянаў – сіла ў царквы што ні ёсць станавая; трэцім ішоў Кіпрыян, трыбун царквы, яе медыйная зорка, знаўца Пісання, прыроджаны інтрыган і царкоўны магнат, за ім стаяла свецкая ўлада, а галоўнае – адна вельмі і вельмі кампетэнтная ўплывовая арганізацыя.

Філафей адасобіўся ад усіх у сваім падворку і выходзіў толькі да лекараў, якія клапаціліся над яго хворымі нагамі. Стаянне ў веры – гэта не толькі зацятая малітва і непахісная ўпэўненасць у праваце спраў Усявышняга, гэта яшчэ марудлівае стаянне на сваіх нагах. Пакуль малады – штодзённыя шматгадзінныя службы не такія ўжо і цяжкія, бывала, прыйдзеш у келлю ледзь жывым, абутак скінеш, келейнік ногі разгладзіць, паўгадзінкі падрэмлеш – і зноў, прутчэйшы, да алтара. З гадамі ўсё цяжэй і цяжэй было стаяць, ды і рухацца па настылай каменнай падлозе і гранітных прыступках. Пасля пяцідзесяці ногі дранцвеюць, бервянеюць. А тут, у Маскве, ужо гадоў як з дзесяць абвясціўся адзін цудоўны лекар, ні то бурат, ні то кітаец – гадзінку павядзьмарыць, паціскае лыткі, іголкамі патыкае, маззю натрэ – і ўсе болі, і ўсе цяжары як рукой здымае. Адно клопатна: не меней дзесяці разоў запар трэба з кітайцам сустракацца. Гэта – па-першае, па-другое – раз у паўгода курсы гэтыя паўтараць неабходна, інакш усе непрыемнасці паступова вяртаюцца. Вось Філафей і карыстаўся зацяжным тырчаннем у першапрастольнай. Спасылаючыся на знямогу, цалкам зразумелую ў ягоным узросце, і на душэўныя разлады ў сувязі са стратай не толькі дабрадатнага першасвятара, але яшчэ і даўняга свайго сябра і паплечніка, мітрапаліт пазбег удзелу ў розных партыях. Прыняўшы для сябе рашэнне, ён скарыўся лёсу, паставіўшы на Кіпрыяна, хоць, як ніхто іншы, ведаў сапраўдны кошт гэтаму практычнаму чалавеку з душой ачытаніка. “Але ўсё ў правіцы Тваёй, о Гасподзь! Так ужо склалася ў нашай у Царкве, што ніхто іншы не сцерпіць сёння гэтага грузу, ніхто. Патрэбен такі цвёрды, уладны, свецкі правіцель, інакш, і Кіпрыян мае рацыю, усё рассыплецца, зачаўрэе, раскрадзецца”. – Думкі пра сваё патрыярства ён адганяў, як надакучлівых сабак, хоць, сябе ж не падманіш, чарвяк ганарыстасці ўсё ж тачыў яго знутры. Вось у

такія хвіліны змаганняў ён і ўспомніў пра Кіпрыянаву візітоўку з таямнічым тэлефонам, які даруе людзям святасць.

На іншым канцы слухаўку паднялі амаль адразу. “Відаць казённую ўстанову”, – падумаў ён і прадставіўся.

– Добрага дня, уладыка. Нас папярэдзілі, і мы вас чакаем. Калі ласка, запішыце адрас і прыязджайце ў кожным зручным вам часе. Пропуск на машыну ўжо замоўлены.

Ехаць давялося недалёка, у раён Любянкі. Як і ва ўсякага чалавека сталага ўзросту, ва ўладыкі да гэтага сталічнага квартала была ўстойлівая прадузятасць. Праўда, сёння не тое, каб ён баяўся гэтага некалі ўсёмагутнаго ведамства – пільнага наглядчыка і неадчэпнага ўмяшальніка ў справы царкоўныя; хутчэй па старой памяці ён ніяк не мог пазбавіцца ад устойлівага пачуцця агіды пры кантакце як з самой сістэмай, так і з яе прадстаўнікамі. Сёння палінялыя спадчыннікі Фелікса і Лаўрэнція зноў набывалі сваю цёмна-блакітную афарбоўку, і іх паружавелыя ад напятае цікаўнасці вушы тырчэлі з кожнай хоць трохі прыстойнае ўстановы. Уладыка спадзяваўся на Провід і толькі пасля адпаведных візітаў і сустрэч доўга мыў рукі з мылам, як пасля кантакту з заразнымі хворымі.

Завулак, у які яны прыехалі, знаходзіўся крыху збоку ад асноўнага змрочнага квартала, дзе ад шэрага мармуру і бетону і ў ясны дзень вісела нейкае пахмурнае марыва. Дамок, пазначаны ў адрасе, нічога з сябе характэрнага не ўяўляў, так – сярэдняй рукі маскоўскі асабнячок, толькі незвычайная падвоценка з калонамі.

– З якога ляду тут калоны? – падумаў уладыка і, у думцы ахінуўшы сябе хросным знакам, ступіў у прадбачліва расчыненыя бясколерным чалавекам дзверы.

Усярэдзіне дом выглядаў нашмат старэй, чым гэта здалося знадворку. Нешырокія мармуровыя пакатыя прыступкі ўздымаліся да пакояў. Сходкі былі да таго сцёртыя наведнікамі, і часам, ступаць на іх сярэдзіну было небяспечна, а смяльчак, які занядбаў гэтую асцярогу, рызыкаваў спатыкнуцца ці падвярнуць нагу на коўзкім стаптаным мармуры, што нейкім цудам захоўваў сваю першасную, іскрыстую белізну.

– Рады, рады вас вітаць у нашых палацах, паважаны Леанід Паўлавіч! – па-свецку звярнуўся да ўладыкі сярэдняга росту чалавек, апрануты ў цёмна-шэры гарнітур, шэрую кашулю і ледзь адрозны шэры ў карычневую крапінку гальштук. – Правільна, вось

тут правым бокам і ўздымайцеся, прыступкі пакатыя і, што вельмі важна, плоскія, не тое што пасярэдзіне, там мы і самі ўжо даўно не ходзім. Працерліся, знасіліся, а памяняць гэтую даўніну рука не паднімаецца. Паданні захоўваюць такія расповеды – валасы дыбам устаюць…

Уладыка не спяшаючыся падняўся сходкамі, пасля сеансаў кітайска-тыбецкага лекара такія перашкоды былі для яго звычайнай дробяззю. “Нейкі нядобры дом”, – міжволі мільгатнула ў галаве недарэчная думка. Не любіў уладыка падобных думак, нечакана бянтэжных. – Ды ўваскрэсне Бог і змарнатравяцца ворагі яго… – пачаў ён чытаць малітву, якая здымала ўсякія насланні, выпрабаванні, адпрэчвала ліхія думкі і вобразы. Пацiскаючы руку шэрага чалавека і адступаючы за ім, уладыка дачытаў моўчкі малітву і ахінуў сябе хросным знакам. Бочным зрокам яму здалося, што спадарожнік на гэта кісла ўхмыльнуўся і нібыта хіснуўся ад яго.

– Прабачце вялікадушна, не расчуў, як вас па імі-бацечку? – каб перапыніць ніякаватае маўчанне, спытаў мітрапаліт, з цікавасцю разглядаючы шкляныя вітрыны плоскіх шафаў, што цягнуліся ўздоўж калідора, нібы праскочваючы праз праёмы высокіх спічастых вокнаў, дзверы.

– Гэта вы мне прабачце, трэба ж, забыўся назвацца! – Няшчыра кудахнуў гаспадар. – Палкоўнік Семчышын Антон Генрыхавіч, тутэйшы, так бы мовіць, наглядчык усяго гэтага дабра. – Ён шырока развёў рукамі. – Вось ужо пятнаццаць гадоў як служу пры іх. І яны да мяне прывыклі, і я да іх, так што цяжка разабрацца, хто з нас больш галоўны. Давайце спачатку зойдзем да мяне ў кабінет, гарбаткі вып’ем, пагаворым пра вашыя патрэбы, а потым ужо я вам сам правяду экскурсію па гэтым доме.

– Выбачайце, а што тут за дэпартамент і якому ведамству ён падпарадкаваны?

– Ведамства ўкола пануе толькі адно: ФСБ–КДБ–ОГПУ–ВЧК, як каму зручней. Няўжо той, хто паслаў да нас, не распавёў, куды вас скіроўвае?

– Ды не, неяк часу не хапіла, – як мага абыякавей адказаў уладыка, спыняючыся каля вітрыны, застаўленай пранумараванымі чалавечымі чарапамі. – Па праўдзе сказаць, я толкам і не ведаю, навошта сюды прыехаў. Нейкія дзіўныя ў вас экспанаты. Гэта, тут што – музей? – ён паказаў на шчэпленыя радамі сківі цы.

– Доўгая гэта гісторыя, але мы - не музей; у мінулым вельмі сур'ёзная навуковая ўстанова, а пачыналі са сціплай, вельмі сакрэтнай лабараторыі. Вы што-небудзь пра Глеба Бокія чулі?

– Толькі штосьці самае агульнае: адзін з кіраўнікоў ЧК, блізкі Леніну чалавек і, здаецца, ці то ён сам застрэліўся, ці то яго расстралялі ў трыццатыя. Я нічога не блытаю?

– Увогуле, дык не, – усміхнуўся палкоўнік, – для чалавека культу вы няблага інфармаваны.

Яны павярнулі направа ў бакавы калідор, спусціліся на некалькі прыступак і, абмінуўшы старамодную велізарную прыёмную з пажылой, няветлай сакратаркай, апынуліся ў кабінеце, які хутчэй нагадваў нейкую тронную залу.

– Ну, вось і мае харомы! Зрэдзьчас, не паверыце, выць тут хочацца, а іншых адпаведных памяшканняў няма, вось і пылюся тут як лабараторны інвентар. Праходзьце, давайце вось тут і прысядзем. – Антон Генрыхавіч паказаў крыху зніякавеламу ўладыку на старадаўнія крэслы з вітымі ножкамі і веерападобнымі спінкамі, рэзанымі мудрагелістымі ўзорамі. Побач з трыма крэсламі стаяў такі ж калчаногі нізенькі столік з багата інкруставанай стальніцай.

Уладыка, не тоячы цікаўнасці, азіраўся вакол. Дзівіцца і сцішыцца тут было ад чаго. Высачэзныя гатычныя вокны з вітражамі ва ўсю вышыню ўяўлялі з сябе карціны нейкай старажытнай містэрыі, аднак мазаічны малюнак разабраць было складана, амаль на ўсіх вокнах звісалі паўспушчаныя, некалі белыя, а цяпер пашарэлыя ад часу і пранняў маркізы. Акрамя празрыстых фіранак па баках кожнага акна ад самай падлогі да столі падніматліся цяжкія аксамітавыя занавесы з жоўтымі пэндзлямі вітых перавязяў. Ад недахопу святла ў памяшканні панаваў устойлівы прыцемак, ад чаго мэбля ды іншыя прадметы набывалі нейкі таямнічы, крыху жукаваты выгляд.

– Так, змрачнавата ў нас, – нібыта ўлад ураженню мітрапаліта, абыякава прамовіў гаспадар дзіўных апартаментаў. – Гэта яшчэ сонейка злёгку свеціць, а ў хмурныя дні без электрычнасці і заблудзіцца можна. Зрэшты, гэтая зала калісьці ў дваццатыя гады і была праславутай лабараторыяй Глеба Паўлавіча Бокія, іншыя памяшканні займалі сумежныя аддзелы нашай установы. Усяго тут хапала, аж да кабінетаў спецдазнанняў, – прамоўца зрабіў паўзу, як бы даючы слухачу час асэнсаваць сказанае.

Уладыка маўчаў і засяроджана разглядваў бачныя фрагменты вітражоў.

– Гляджу, вас акенцы нашыя зацікавілі? Забаўныя малюначкі, асабліва калі шторкі паднятыя і сонца пры заходзе іх цалкам асвятляе. Сонца тут, дарэчы, толькі падвечар і з’яўляецца…

– Прабачце міласціва, ніяк не магу разабраць, што за сцэны тут прадстаўлены? – перапыніў яго ўладыка і ўжо было рушыў да блізкага аконнага праёму.

– Непрыстойныя вельмі малюначкі, з паганскіх, звязаныя з культам Дыяніса і Вакханаліямі. Але гэта, так бы мовіць, дасталося спадчынай ад распуснага царызму. Дамок гэты яшчэ той, штосьці накшталт рыжскага “Дома чорнагаловых”… Належаў, праўда, блізкай радні не імператарскай галіны Раманавых… Давайце ўсё ж прысядзем, – ён зноў паказаў на крэслы вакол калчаногага століка.

Расселіся. Дзесьці ў глыбіні зазваніў тэлефон.

– Выбачайце, але трубку гэтага апарата браць трэба ў абавязковым парадку, – і гаспадар як бы растаў у прыцемку.

Неўзабаве ў самым канцы залы нязырка запалілася настольная лямпа пад вялікай зялёнай засняй. Уладыка са здзіўленнем заўважыў, што сцяна за рабочым сталом, які стаіць на невялікім узвышэнні, уяўляла сабою велізарнае акно, наглуха зашторанае аксамітавай заслонай, бо фіранкай гэта назваць ніяк не выпадала. Пра што гаварыў гаспадар, разабраць было немагчыма, ды і размова вялася хутка й на нейкай азіяцкай гаворцы.

“З якога ляду я сюды прыцягнуўся, сядзеў бы сабе дома і цешыўся з спакою. Стары ўжо, а ўсё цікавосткамі праняты, – пачаў ён сябе дакараць, аднак увагу яго прыцягнулі дзіўныя інкрустацыі на століку. Гэта былі надпісы на старажытным іўрыце і нейкія кабалічныя малюнкі. – Так, не дом, а суцэльная брыдота, за такім сталом і хлеб у горла не палезе. – На яго радасць, гаспадар вярнуўся, ды і сакратарка выплыла з цямрэчы з велізарным падносам. Моўчкі яна заслала стол пластыкавымі сервіравальнымі сурвэткамі з малюнкам яркай трапічнай садавіны, расставіла кубкі, на сярэдзіне стала ўзняла вялікі імбрык і дзве невялікія талеркі з ласункамі, акуратнымі долькамі цытрыны, цукрам, арэшкамі і сухафруктамі.

– Не зважаючы на ўсю нашую змрочнасць, чай у нас традыцыйна бездакорнай якасці, – разліваючы бурштынавую вадкасць у тонкія кубкі, прамовіў гаспадар. – Я бачу, вас

бянтэжыць прысутнасць у нас, і ці не пачалі ўжо сябе дакараць у тым, што сюды з’явіліся. Уладыка, не пярэчце. Усе мы дамаседы і вельмі не любім рабіць дзіўныя візіты ці прымаць у сябе дзіўных візіцёраў. Давайце адразу да справы, вы не супраць?

– Не выпадае пярэчыць. Вы праніклівы чалавек, мне сапраўды неяк не па сабе ад усяго гэтага, – Філафей нявызначана павёў перад сабой рукой. – Прызнацца, я ўжо было пашкадаваў, што сюды прыехаў. Аднак у Царквы, як і ў вашай арганізацыі, блаславенне кіраўніка выконваецца бясспрэчна і хутка. Дык навошта я да вас пасланы? Пытанне, вядома, ніякаватае, але шчырае. Я, сапраўды, не ведаю, пра што казаў месцанадзорнік. – Уладыка ўважліва паглядзеў на суразмоўцу. Твар якога, пры ўсёй яго рэльефнасці, быў нейкім знікомым. Вось, здаецца, нос, рот, скулы, але адвядзі вочы – і ты іх не можаш уявіць у памяці, дакладней, па асобку нібыта і ўяўляеш, а вось звесці разам, каб склалася выява толькі што бачанага чалавека, аніяк не атрымліваецца.

Чай аднак быў выдатным, з нейкімі траўкамі ці карэннямі.

– Навошта вы прыйшлі, думаю, вам будучы Патрыярх растлумачыць, ды вы і самі хутка аб усім здагадаецеся. Не будзем мы, напэўна, хадзіць па нашых залах і катакомбах, думаецца, экскурсія для вас будзе не з прыемных. Але кароткую гісторыю пытання я ўсё ж выкладу. – Ён як бы на хвіліну задумаўся, узважваючы, а ці варта наогул працягваць? Бо і саноўны гэты манах, і ўся яго царква з фанатычнымі вернікамі-невукамі адносіць усё, пра што пойдзе гаворка, да сатанізма і сведчання прысутнасці вечнага Зла на зямлі. Але ён усё ж вырашыў працягнуць, а заадно лішні раз праверыць уздзеянне новых ведаў на прафана.

– Па сутнасці, мы такая ж містычная ўстанова, як і вашая царква. У нас ёсць і свае адэпты, і свае святыні… Уладыка, прашу ласкава, не пярэчце. Я вас не збіраюся пераварочваць у сваю атэістычную веру, я кажу толькі тое, што павінен вам сказаць. Лічыце, што з вамі праводзяць закрыты інструктаж. Галоўнае, чым тут займаліся і сёння займаюцца – збор, аналіз і вывучэнне таемных ведаў, паранармальных здольнасцяў чалавека, сакральных прадметаў, рэлігійных практык, ініцыяцый і старажытных культаў. Вось, да прыкладу, гэты стол. З выгляду стол як стол, скрэслены кабалістычнымі заклёнамі, формуламі і магічнымі знакамі. Нічога асаблівага, правільна?

– Вам відней, гэта ж вашая маёмасць

– І то праўда, маёмасць, казённая. Аднак краніце імбрык, толькі асцярожней.

Уладыка нерашуча дакрануўся да пукатага прыгажуна і адшмаргнуў руку:

– Горача!

– У тым і ўвесь сакрэт! Імбрык захоўвае цяпло колькі заўгодна доўга, калі яго паставіць менавіта на гэтае месца. Не верыце? Давайце прыбяром імбрык і на яго месца ўсталюем ваш кубак. – Не чакаючы згоды, Антон Генрыхавіч прарабіў маніпуляцыі з посудам. – Хвілін праз дзесяць я вярну ваш кубак… Усё, што тут захоўвацца, незвычайнае і часам невытлумачальнае. Для вас, я маю на ўвазе вернікаў, усё проста: што не зразумела – ад бога ці яго антыпода, а нам за волю Усявышняга схавацца не атрымліваецца, нам начальству пра вынікі дакладваць трэба. Дык вось, маецца ў нас асобны фонд захоўвання і вывучэння падобных штучак, сабраных і ў вашым Заходнім краі і наўпрост датычных вашай хрысціянскай канфесіі. Я тут рыхтаваўся да вашага візіту і загадаў са сховішчаў сёе-тое перамясціць часова сюды. Хадземце зірнем, пакуль чай ваш падагрэецца.

Філафею нічога не заставалася рабіць, як падпарадкавацца і прайсці за гаспадаром. Яны наблізіліся да вялікай шкляной вітрыны, падобная да тых, у калідорах. Пстрыкнуў уключальнік, і пад шклом уладыка ўбачыў старажытныя, заціснутыя ў з’едзеную часам скуру рукапісныя фаліянты, пацiры, незвычайнай формы аналойныя крыжы, падсвечнікі, кадзілы, лампадкі.

– Вы можаце ўсё патрымаць, пакратаць – замкоў на дзверцах няма.

Уладыка узяў невялікую кніжыцу, пазбаўленую вокладкі і загорнутую ў тонкую, добра выштукаваную скуру. Рукапіс быў старажытны, напісаны дзіўнымі бурымі, месцамі зусім выліняльмі чарніламі. Не спяшаючыся, ён начапіў акуляры і паспрабаваў прачытаць тэкст. Мова аказалася не царкоўна-славянскай, а нейкай дзіўна-знаёмай, як быццам ён яе нядаўна чуў на вуліцы. Гэта відавочна было Адкрыццё Іаана Багаслова з вельмі дзіўнымі тлумачэннямі. Пры гэтым тлумачэнне тэкста ішло адразу за кананічным пісаннем.

– З усіх сабраных у гэтай шафе рукапісаў вы чамусьці ўзялі самую дзіўную…

– Што – і яна таксама чай падаграе?

– Ды не, гэта адзіны, наколькі мне вядома, у свеце асобнік Апакаліпсіса, перапісаны ў шаснаццатым стагоддзі ўніяцкім манахам сваёй крывёй. З прароцкімі тлумачэннямі. Наогул, уніяцкіх і старажытнарускіх, у сэнсе Полацкіх і Кіеўскіх, кніг засталіся адзінкі. Калі вы пры вялікай Кацюшы пачалі зганяць усіх у сваё адзінства, то ўсе кнігі і набажэнскія, і святога пісьма звозіліся ў Жыровіцкі манастыр і спальваліся. Я б дорага аддаў за адну толькі дробку попелу з таго вогнішча. Сотні, тысячы тады згарэла кніг. Не, я не вар’ят. Проста мы яшчэ ў дваццатыя гады даказалі, навукова даказалі, а не тэалагічна, што жменя попелу са згарэлага горада захоўвае ў сабе амаль усю інфармацыю пра сам горад і яго насельнікаў. Кнігі гэтыя цікавыя, але не асабліва каштоўныя, як на маё, дык многія можна было б даўно аддаць у музеі. Хоць там іх расцягнуць, прададуць ці і зусім згнояць у сырых склепах. Мяне, дапусцім, больш цікавіць, што капала Анэнэрбэ ў гады другой сусветнай вайны на стыку Магілёўскай і Гомельскай абласцей, ведаеце – там, дзе вядомая Блакітная крыніца. Вы часам нічога пра гэта не чулі?

– Не, не чуў, я нават і выказаць здагадку не мог, што падчас вайны кагосьці магла цікавіць археалогія, – адказаў уладыка, усталёўаючы на месца крамольныя запіскі.

– Немцаў цікавіла, ды яшчэ як.

Другая вітрына была большай, але змесцівам практычна не адрознівалася ад папярэдняй.

– Тут, уладыка, тая кніга, якую загадана вам перадаць. Паспрабуеце самі адгадаць?

– Не ўжо, прабачце, не выпадае мне гаданнямі займацца, – пакрыўджана адказаў мітрапаліт, – і яшчэ калі кніга будзе не кананічнай, ды яшчэ і крывёй пісаная – я яе не тое, што з сабой – у рукі не вазьму.

– Не, кніга цалкам кананічная, навуцы вядомая, толькі вось з часоў вайны выпала з ужытку. Для нас яна нулявы пункт захоўвання, хоць нейкія вібрацыі і стварае. Вось яна.

Уладыка асцярожна, відавочна баючыся падвоху, узяў важкі том, разгарнуў яго – і ледзь было не страціў прытомнасць. Ён трымаў ва ўласных руках старажытны рукапіс Збужскага Евангелля, беззваротна згублены ў 1941 годзе.

– Гэта копія? – анямелымі вуснамі прамовіў іерарх.

– Крыўдзіце, не тая рэпутацыя ўстановы, каб тут трымаць копіі. Арыгінал, асабіста ў 1581 годзе перапісаны збужскім князем Юрыем Алелькавічам.

– Госпадзі… быць гэтага не можа, не можа! – мітрапаліт прыціснуў да сябе левай рукой кнігу, а правай шырока перахрысціўся.

– Э, давайце-ка ў нас абыдземся без абрадавых жэстаў і малітваў. Не падыходнае для гэтага месца, а то немаведама якія працэсы запусціць можна. Бачу, што вы задаволены… Бярыце свой артэфакт – і пойдзем чай дапіваць.

– Не, не, адну хвілiначку! – прыціскаючы да сябе Евангелле, запратэставаў уладыка. – А дзе *ён*?

– Не зразумеў… Прабачце, хто дзе?

– Як хто, крыж наш! Крыж святой Еўфрасінні?!

– Вось усе крыжы, што ў нас знайшлі прыстанак, які з іх ваш – не ведаю, – відавочна з напускной абыякавасцю прамовіў палкоўнік.

– Не, не… ён у вас! У вас, калі Евангелле тут, то і крыж павінен быць тут. Іх разам вывозілі з Моўска, тады, улетку сорак першага.

– Хадзем, уладыка, чай дапіваць, – стаяў на сваім гаспадар, – хадзем, а там, можа, што і прыдумаем.

Чай сапраўды быў як кіпень, іншым разам уладыка гэтым бы феноменам зацікавіўся, а цяпер з галавы ў яго не ішла думка пра крыж – вялікую святыню нябеснай заступніцы яго мітраполіі, усяго Заходняга краю.

– Вы пакуль пачаюйце тут самотнікам, а я на хвілiначку адлучуся, – перапыніў яго разважанні Антон Генрыхавіч. – Я, здаецца, здагадаўся, пра што вы пыталі. Я хутка вярнуся, – і з гэтымі словамі гаспадар кабінета ўстаў – і яго шэрая постаць практычна растварылася ў падслепаватым змроку.

“Эх, уладыка, уладыка, – не выпускаючы з рук святую кнігу, дакараў сябе мітрапаліт, – і собіла табе ва ўсю гэтую чартаўню ўляпацца. Ды нічога, з чартаўнёй, адмалюся як-небудзь, галоўнае – Кніга гэтая і Крыж. Крыж… Гэта я ўжо больш за трыццаць гадоў на кафедры, а яго ўсё шукаюць. Свецкія, праўда, улады галоўным чынам шукаюць. Прасіў у патрыярха дабраславення на адшуканне нашых святыняў: і не дабраславіў, і забароны не выказаў... Не пра тое ты, стары корч, думаеш: вышукі, дабраславенні! У цябе вунь

поўная тэчка выразак – і ні ў адной з іх няма і паўслова пра Бокія гэтага і яго лабараторыю. Лічы, у Расіі рэліквіі толкам ніхто і не шукаў. Што ж рабіць? Евангелле я ўжо ім не аддам, – уладыка гатовы быў, пакуль няма гаспадара, распрануцца, прыціснуць кнігу да цела рамянём і схаваць ад нячыстых вачэй і рук яе пад шырокімі зморшчынамі рызы. – Ды не, не трэба нічога хаваць, чэкіст гэты нібыта сказаў, што загадана Кнігу мне аддаць. – Думкі міжволі скакалі ў растрывожанай галаве. – А Кіпрыян яшчэ той! Ведаў жа, ведаў, паскуднік, дзе гэта ўсё ўтоена было – і маўчаў, і перада мной маўчаў, і перад Сінодам, а галоўнае – прад Богам. Ох, юдолі нашы цяжкія! А як Крыжа і сапраўды ў іх няма? Можа быць, і дарма я пра Крыж гаворку завёў. Ох, хітрэй, хітрэй трэба было дзейнічаць. Перш Кнігу выратаваць, а потым ужо і за Крыжом прыходзіць, Кіпрыяну назаляць...

– Ну, вось і я, засумавалі, ніяк? – амаль над самым вухам прашамацеў голас фээсбэшніка. – Што ж вы чай не п’яце? Зараз мы яго крыху падагрэем…

– Ды вы ведаеце, я ўжо і так усюды спазняюся… – паднімаючыся, прагаварыў уладыка. – Пайду я, мабыць, з Божай дапамогай.

– Калі ласка, я вас затрымліваць не магу, не было пакуль такіх распараджэнняў, – палкоўнік, задаволены сваёй бестактоўнасцю, усміхнуўся. – Вось фармальнасці сякія-такія ўладзім – і ідзіце сабе. Прашу вас, падпішыце вось гэты фармуляр.

Уладыка апусціўся на крэсла, па-ранейшаму прыціскаючы левай рукой Евангелле.

– Ды пакладзіце вы кнігу, яна ўжо, лічыце, вашая, і адбіраць яе ніхто не будзе.

Мітрапаліт нібы не пачуў міма вушэй гэтыя словы, спрабуючы не прапусціць сэнс чытанага дакумента. Нічога асаблівага папера не ўтрымлівала. На пачатку ішло апісанне артэфакта, дзе, калі і кім створанага, кім знойдзенага, дзе хаванага, каму перадаванага…, нічога новага. Апошні абзац абвяшчаў, што дадзеная адзінка захоўвання бязвыплатна перадаецца прадстаўніку РПЦ… прозвішча, імя, імя па-бацьку, і ў дужках дробным шрыфтам: мітрапаліту Заходнякрайскаму Філафею. Не выпускаючы Кнігі, уладыка распісаўся працягнутай яму асадкай.

– Усё, мне можна ісці?

– Пакуль не, вось яшчэ тэкст абяцання, што вы ні пры якіх абставінах не маеце права выдаваць акалічнасці вашага візіту да нас, перадаваць іншым асобам змест нашай гутаркі, апісанні ўбачанага тут і гэтак далей.

– Як, а Кіпрыяну? Сіноду?

– Маўчаць, уладыка, трэба, як вось гэтаму імбрыку. Выкіпаць знутры, але маўчаць. Гэта, як у нас гаворыцца, у вашых жа інтарэсах.

Уладыка падпісаў і абяцанне.

– Ды ўжо не спяшайцеся, справа зробленая. Чай давайце ўсёткі дап’ём. На Усходзе недапіты чай – амаль абраза гаспадара і яго дастархана.

Падлілі гарачага напою з вечна разагрэтага імбрыка.

– Вы, верагодна, пра гэты крыж казалі? – цалкам адсутным голасам прамовіў палкоўнік і паклаў перад аталапелым уладыкам даўгаваты скураны футарал. – Вось ён, ваш крыж. Абяцайце, што вы да яго не дакранецеся, гэта адзіная ўмова. Рэч гэта каштоўная і яшчэ якая. Ну дык даяце слова?

Цяжка і апісаць, што дзеялася з уладыкам: і розум, і вера сашчапіліся ў нейкай унутранай сутычцы. Здавалася, яшчэ хвіліна – і сэрца выскачыць з грудзей, і ён не толькі не ўбачыць нябеснага крыжа, але ніколі не вынесе з гэтага змрочнага палаца Святое Евангелле. “Не, трэба змагацца, трэба трымацца”… «Сим и победим.» «Да воскреснет Бог и расточаться врази Его, да бежат от лица Его ненавидящие Его, яко тает воск от лица огня…» Дачытаўшы малітву да канца, уладыка вымавіў:

– Абавязваюся…

Футарал расчыніўся, і на светлай тканіне зазіхцеў старажытны знак старажытнай зямлі, шматпакутнай і доўгія стагоддзі безназоўнай, але не зваяванай, не зламанай, зямлі, якая выдужала і цяпер шукае свае ранейшыя імя і славу.

– Благаславёна імя Гасподняе за паказаны цуд здабыцця вачыма маімі крыжа Вялебнай заступніцы зямлі нашай! Дзякуй вам, якім бы вы не былі чалавекам… Пасля гэтага і памерці не страшна, – не адрываючы вачэй ад крыжа, прамовіў Філафей. – Аднаго зразумець не магу: навошта Ён вам? Кнігу аддаяце, а абадратую дзеравяку, па вашым разуменні, пакідаеце ў вязніцы? – Крыж выглядаў, як яго і апісваў Ластоўскі: нямоглым і пашкоджаным і апаганеным паляўнічымі за каменнем. – А ведаеце, што на адной з бакавін

крыжа па навучэнні Еўфрасінні майстар Лазар Богша выразаў праклён таму, хто паспрабуе вывезці гэты крыж з горада Вялебнай?

– Ведаем, і высока гэта цэнім, можа, зрэшты, гэты заклён і з'яўляецца энергетычна найбольш каштоўным элементам ва ўсёй канструкцыі выраба. Калі вам цікава, магу прачытаць гэты тэкст?

– Не, дзякуй, не я вывозіў гэты крыж – не мне і цяжар слоў гэтых несці. Дык усё ж навошта вам крыж? Вы так і не адказалі.

– Па нашым унутраным паданні, якраз на вашым месцы сядзеў небезвядомы свету Лаўрын Паўлавіч Берыя і гэтак жа, як і вы, дзіваваўся выбарам яго падначаленымі прадметаў з толькі што прыбылай з фронту машыны. Так, уладыка, той самай машыны, пра якую вы ўсё спрабавалі завесці гутарку. А выбар быў сапраўды дзіўным. Несамавіты крыж, з якога прадстаўнікі свядомага пралетарыята павыкалупвалі ўсе больш-менш каштоўныя ўстаўкі. Патрапаная кніга, нібыта перапісаная асабіста нейкім князем, ды яшчэ дзіўнай формы карэц з пахаваннеяў позняй бронзы. Вось і ўвесь скарб… Усемагутны Берыя абураўся, маўляў, навошта НКВД уся гэтая старызна, але ён ведаў, што з нашымі спрачацца – сабе даражэй. Ды і наўрад ці тады можна было даць дакладны адказ на падобныя пытанні. Таварышы, адказныя за сартаванне, адгадалі ці адчулі энергетычную сілу спалучэння гэтых прадметаў і накіравалі іх у лабараторыю. Вы разумееце, пра што я кажу?

– Прызнацца, не. Якая энергія, што – у крыжы электроўня ці акумулятар схаваныя? Не разумею…

– Можа, больш, чым электроўня. Уладыка, наша гутарка не мае ніякага сэнсу, мы не зможам зразумець адзін аднаго, бо гаворым на розных мовах, падобнымі словамі. І ўсё ж я паспрабую растлумачыць вам на пальцах. Мы лічым, што свет энергетычны, і ўся жывая і нежывая матэрыя ўзаемазлучаная паміж сабой тонкімі энергіямі. У залежнасці ад прыкладання гэтых энергій, іх канцэнтрацыі ці пераразмеркаванняў залежаць станы планеты і соцыума, на ёй заселенага. Словам, хто навучыцца першым кіраваць энергіямі – той і будзе паўнапраўным гаспадаром свету. Усе ўрады вядуць даследаванні ў гэтай галіне, але толкам вынікаў пакуль ніхто не дамогся. Дык вось, як высветлілася, крыж вашай святой – своеасаблівы энергетычны ключ, здольны пераразмяркоўваць энергіі. Чаму гэта адбываецца – ніхто не ведае, але і вярнуць яго ў энергетычную стыхію вашага народа вельмі небяспечна. Што нарабіла дзіда Лангіна, якая патрапіла з музея

Аўстрыі ў рукі аднаго германскага яфрэйтара, вы, спадзяюся, ведаеце? – палкоўнік замоўк, даўкая цішыня перапоўненага рэчамі і пылам памяшкання навалілася на ўладыку, не даючы магчымасці падумаць і асэнсаваць пачутае.

– Не мне вам, спрактыкаванаму тэолагу, тлумачыць, што ўсякая імперыя нароўні з зямным, матэрыяльным увасабленнем мае і сакральнае, містычнае ўвасабленне. Дык вось, крыж гэты ўтрымлівае вашую краіну ў гранях адзінай імперыі, ну, скажам, Раманавых – і перамяшчэнне яго ў вашыя краі можа прывесці да вельмі непрадказальных наступстваў. Ні нам, то бок Расіі, ні вакольнаму свету не патрэбен моцны, самастойны Заходні край. Не ўпісваецца ён у новы расклад свету, так што крыж гэты народ ваш ніколі назад не атрымае. Можа, яно і да лепшага… А цяпер, уладыка, будзем развітвацца. І галоўнае: забудзьцеся на ўсё, што вы тут бачылі і чулі. Са здабыцця Евангелля цудаў рабіць не варта: проста вернікі прынеслі, хто ды адкуль – ужо й не разбярэш.

Яны ўсталі і накіраваліся да выйсця.

– Не пакрыўдуйце, Антон Генрыхавіч, а што намалявана на вітражы велізарнага акна за вашым працоўным сталом?

– Вы і гэта паспелі разглядзець? Не трэба было вас сюды прыводзіць! Трон Люцыпара, які правіць светам.

– “Ды ўваскрэсне Бог…” – нягучна заспяваў уладыка і, не развітваючыся, выйшаў прэч, па ранейшаму моцна прыціскаючы да сябе неацэнны набытак.

**Татьяна Кекелева**

## Московские адреса Ларисы Александровской

Выдающаяся оперная певица, талантливый режиссёр, активный общественный деятель, народная артистка Беларуси и СССР Лариса Помпеевна Александровская внесла огромный вклад в развитие белорусского музыкального искусства, в укрепление дружбы между народами, театральными коллективами бывших республик Советского Союза.

Благодаря кипучей концертной и гастрольной (в составе Государственного большого театра оперы и балета БССР) деятельности, работе в Белорусском театральном обществе, которое она возглавляла на протяжении тридцати лет, участию в международных организациях борцов за мир, заботе о подготовке талантливой театральной молодежи Лариса Помпеевна наладила широкие творческие связи, приобрела многочисленных поклонников и друзей.

Особенно тесно творческий путь певицы был связан с Москвой и москвичами. Среди тех, кто восхищался её дарованием, редким по красоте голосом, её исключительными вокальными и сценическими способностями, человеческими качествами – добротой, целеустремленностью, жизнестойкостью, неуемной энергией, – выдающиеся деятели русской театральной и музыкальной культуры В.В.Барсова, Д.Б.Кабалевский, И.С.Козловский, С.Я.Лемешев, М.Д.Михайлов, Б.А.Покровский, Т.Н.Хренников, М.И.Царёв, Д.Д.Шостакович, И.П.Яунзем и др. Свидетельство тому – её личный фонд № 316 в Белорусском государственном архиве-музее литературы и искусства, в котором собрана огромная переписка с московскими солистами оперы, композиторами, дирижёрами, педагогами, програмы и афишы московских концертов, в которых выступала белорусская «прима», фотографии сцен из спектаклей Белорусского театра оперы и балета с участием московских оперных звёзд, фотографии с дарственными надписями знаменитых мастеров Большого театра, тексты воспоминаний, выступлений и поздравлений Л.П.Александровской и многое другое.

Одной из первых встреч с московской публикой стало выступление молодой певицы в партии Марыси в опере Е.Тикоцкого «Михась Подгорный» во время первой Декады белорусского искусства в Москве летом 1940 г. Искушённые московские зрители были поражены голосом, обаянием, красотой молодой певицы. О предыстории подготовки к Декаде вспоминает А.Б. Ладыгина в книге «Лариса Помпеевна Александровская» [1, с. 144-145]: «Предпоследний довоенный сезон 1939 – 1940 гг. в театре прошел под флагом подготовки к московской декаде. Готовить декадные спектакли белорусам бескорыстно помогали выдающиеся деятели музыкального искусства из Москвы. Так ещё осенью 1938 года приезжали слушать в концертном исполнении оперу Е.Тикоцкого известные советские композиторы Р.Глиэр и В.Белый, дирижёр С.Самосуд А в преддверии декады, в январе 1940 г., в театр специально приезжали замечательные мастера Большого театра – его главный дирижер Николай Семенович Голованов и великая русская певица Антонина Васильевна Нежданова. Они слушали исполнителей, консультировали постановщиков, работали с певцами. Лариса Помпеевна тогда много получила от творческого общения с выдающимися деятелями искусства, крепко подружилась с ними. Она и до того была хорошо знакома с обоими, так как будучи несколько месяцев на стажировке в Большом театре осенью 1939 г., общалась с ними и в театре, и в домашней обстановке (в Москве жила в одном доме с ними в Собиновском переулке – в знаменитом доме, который до сих пор москвичи называют Домом Неждановой).»

В 1963 г. Лариса Помпеевна написала воспоминания об А.В. Неждановой, «большом человеке, великой певице, «соловье» земли русской»: «Одной из светлых страниц моей жизни в искусстве – знакомство, встречи и даже – работа! с Антониной Васильевной Неждановой. Мне не забыть, с какой лаской, по–матерински обняв меня, Антонина Васильевна подбадривала, вселяя уверенность, во время моего первого открытого выступления с симфоническим оркестром в Москве в большом зале консерватории. И как хорошо, легко пелось, зная, что в зале сидит такой великий мастер – Антонина Васильевна, и видеть, что она с таким доброжелательством, своей чудесной улыбкой, сердечно, от души, вместе с тобой переживает и с искренней теплотой, как бы гипнотизируя тебя, помогает хорошо выступить и понравиться

взыскательному московскому слушателю […]. Я не помню Антонину Васильевну сердитой, злой, не в настроении. И меня, как-то всегда поражало удивительное равновесие в ее отношениях к людям, ее готовность выслушать вас, помочь советом, согреть, и никогда не помню ее недовольной, осуждающей кого-либо, не слыхала и жалоб на нездоровье или на неприятности. Удивительная в своем жизнерадостном восприятии всего происходящего! Ее улыбка невольно располагала к душевному спокойствию, хорошему настроению, дружбе […] .

Помню, обратились к Антонине Васильевне с просьбой поговорить с нами о законах вокала, вокальной школе, о том – как надо добиваться в спектаклях такого воздействия на слушателя, какое излучает мастерство ее исполнения, одним словом, просили рассказать, как она поет!

Антонина Васильевна как-то очень молодо застеснялась, смутилась и, как будто, растерялась, а потом, подумав, сказала: «Как я пою? Ну, открываю рот и… пою». Оказывается – так просто, – открыть рот и петь, и больше ничего! Вот в этой простоте огромный смысл всего творчества и мастерства Антонины Васильевны: на сцене она не задумывается, как взять дыхание, как им пользоваться, как надо открывать рот, как произносить слова, как вокалом передавать смысл исполняемого, как делать образ живым, человеческим, волнующим, что надо сделать, чтобы зритель сердцем понял тебя и вместе с тобой смеялся или плакал над образом, созданным композитором. Антонина Васильевна все продумала, все перечувствовала, все «наработала», вжилась в вокально-музыкально-сценический образ – ей все понятно, все ясно и она только «открывает рот, чтобы петь». На сцене она больше ни о чем не думает. Но ведь она не выйдет на сцену, если в исполняемом ею образе что-то ее не удовлетворяет. И вот добившись, поработав, войдя в жизнь образа, поняв его сущность, пронеся его через свое «я» – и только тогда она просто, как в жизни, живет правдой, чувствами, мыслями и поведением изображаемого образа, и для этого только надо «открыть рот … и петь! […]» [2].

Анализируя творческую лабораторию знаменитой певицы, Лариса Помпеевна раскрывала сложности и особенности и своей работы над ролью в оперном спектакле.

Среди выдающихся оперных певцов, друзей и поклонников её таланта, были знаменитые лирические теноры Большого театра Иван Семенович Козловский и Сергей Яковлевич Лемешев, отношение которых к Ларисе Помпеевне отличалось особой приязнью, уважением, почитанием и нежностью. Неоднократно они приезжали в Минск, исполняя ведущие партии в спектаклях Белорусского театра оперы и балета. В фонде Л.П.Александровской сохранилось несколько писем и открыток от московских коллег. С.Я.Лемешев в письме от 13 июня 1971 г. обращается с просьбой: «Дорогая Лариса Помпеевна! Хоть и давно я Вас не видел, но всегда слышу о Вашей кипучей деятельности в родном нашем искусстве. Шлю Вам самые искренние пожелания доброго здоровья, счастья и новых больших успехов в творческом труде. Прочитав в газете объявление о том, что Большому театру в Минске требуется сопрано, Оля Жукова, только что отлично окончившая Московскую консерваторию по классу В.И.Кудрявцевой, захотела поехать на пробу, попытать счастья… У неё голос полного диапазона. Она способная и очень трудолюбивая. В оперной студии консерватории она была любимицей и дирижёров, и режиссёров. Ещё раз примите мои самые, самые сердечные добрые пожелания и простите за беспокойство. Ваш С.Лемешев» [3]. С.Я.Лемешев запомнился белорусским зрителям как Ленский в «Евгении Онегине» П.Чайковского, Альфред – в «Травиате» Дж.Верди.

Давняя дружба связывала Ларису Помпеевну с Иваном Семёновичем Козловским. Из воспоминаний старых актеров известно, что, когда в 1950-ые годы в связи с непопулярностью оперных спектаклей и малыми денежными сборами руководству театра нечем было платить зарплату творческому коллективу, Александровская обратилась с просьбой к Ивану Семеновичу Козловскому украсить своим выступлением спектакли театра. Он, приняв близко к сердцу проблемы белорусской примы, приехал в 1953 г. в Минск, благополучно выступил в 11 спектаклях, в которых исполнил партии Ленского («Евгений Онегин» П.Чайковского), Альфрэда («Травиата» Дж.Верди), Фауста («Фауст» Ш.Гуно), Андрэя («Тихий Дон» Т.Хренникова) и Альмавивы («Севильский цирюльник» Дж.Россини), чем спас финансовое положение театра и престиж Ларисы Помпеевны. В фонде есть его фотографии в ролях, подаренные актрисе, а

Акрамя гэтага мы сачылі за навінкамі, шукалі і куплялі іх. Былі такія спецыяльныя кнігарні, якія гандлявалі кнігамі, якія выдаваліся ў Савецкім саюзе - у тым ліку там былі і беларускія кнігі.

Пасля мы шукалі па ўсякіх антыкварыятах старыя кнігі - і ў Нямеччыне, і ў Галандыі, і ў Францыі - усюды, дзе магчыма. Мы завязалі кантакты з антыкварамі і вельмі часта нам удавалася купіць вельмі рэдкія і вельмі каштоўныя кнігі.

Маем нямала выданняў 19-га стагоддзя. Скажам, такая кніга, як запісы біскупа Сямашкі, які касаваў царкоўную вунію, тры тамы, нам удалося проста купіць у антыкварыяце, і даволі танна. Маем "Беларускі архіў", выдадзены ў 1824 годзе ў Маскве, які склаў вядомы тагачасны праваслаўны святар-беларус Грыгаровіч. Гэта першы археаграфічны зборнік беларускіх дакументаў. Можна распавядаць шмат - нам удалося набыць сотні цікавых кнігаў з гісторыі Беларусі, з гісторыі Царквы на Беларусі, якія цяпер даступныя для ўсіх, хто гэтым цікавіцца.

**АЧ: Паралельна з бібліятэкаю з'явіўся і музей...**

**а. Аляксандр Надсан**: Музей - як бы дадатак да бібліятэкі, бібліятэка важнейшая, але і ў музеі таксама ёсць некалькі цікавых экспанатаў: слуцкія паясы, старыя манеты Вялікага княства Літоўскага, пачынаючы ад кавалка срэбнай грыўны, і сканчаючы да сапраўдных манетаў-грошай, арыгінальныя пашпарты БНР. Мы збіралі ўсё, што магчыма.

Вельмі важным таксама было збіранне архіваў старых дакументаў. Маем дакументы ад канца 15 стагоддзя і аж да сённяшняга дня.

**АЧ: Напэўна, шмат архіваў, звязаных з Беларускай народнай рэспублікай?**

**а. Аляксандр Надсан**: Такіх дакументаў шмат. Ёсць пэўныя старыя дакументы БНР 20-х гадоў. Таксама мы збіралі архівы беларускіх арганізацыяў у розных краінах, якія нам дасылалі. Напрыклад, маем архіў арганізацыі беларускіх скаўтаў у Нямеччыне, архіў Хаўруса беларускіх работнікаў у Францыі - арганізацыі, якая дзейнічала яшчэ перад вайною, у 30-я гады. Маем архівы з Канады, ЗША, іншых краінаў.

**АЧ: Атрымліваецца такі глабальны архіў беларускай дыяспары...**

**а. Аляксандр Надсан**: Так, глабальны архіў. Усе гэтыя архівы вось стаяць у нас па скрынках. Плюс, у нас царкоўныя архівы, архівы беларускіх святароў, якія ўжо памерлі.: а. Гарошкі, а. Татарыновіча, а. Салаўя з Нямеччыны. Найбольшы архіў, безумоўна, біскупа Сіповіча - гэта цэлая шафа. Гэтыя архівы маюць і старыя дакументы адносна беларускай царквы 19 стагоддзя. Самы стары рукапіс у нас - з канца 15 стагоддзя.

**АЧ: Царкоўныя архівы, напэўна, дапамаглі потым адраджаць царкву на Беларусі, пасля таго, як сыйшла савецкая ўлада?**

**а. Аляксандр Надсан**: Царква пачала адраджацца яшчэ за савецкім часам, і архівы былі сапраўды важныя. Калі я цяпер пішу кнігі пра беларускую царкву - пра біскупа Сіповіча, пра марыянаў у Друі ці пра княгіню Радзівіл - усе адпаведныя матэрыялы знаходзяцца тут у нас у бібліятэцы. І шмат яшчэ папер застаецца неапрацаваным, чакае навукоўцаў, якія б імі заняліся.

**АЧ: Багаты рэсурс для беларусазнаўства**

**а. Аляксандр Надсан**: Так, гэтымі матэрыяламі многа карысталіся, і дай Бог, каб яшчэ больш карысталіся.

**АЧ: Наколькі беларускім навукоўцам цікавыя гэтыя матэрыялы?**

**а. Аляксандр Надсан**: У нас было даволі шмат беларусаў у канцы 80-х і пачатку 90-х гг. Цяпер іх крыху паменшала, але тым не меней да нас прыязджаюць працаваць.

**АЧ: Сустракаў у бібліятэцы кнігі з дарчымі надпісамі аўтараў…**

АН: Так, ёсць нават унікальныя. Прыкладам, дарчы надпіс П.У.Уладзімірава на сваёй кнізе пра Скарыну, якую ён падарыў

гісторыку, паляку з паходжання. Многія беларускія пісьменнікі даслалі і дасылаюць нам свае падпісаныя кнігі. Маем аўтографы Быкава, Караткевіча - ён перад смерцю даслаў нам сваю апошнюю кнігу. Маем аўтографы мовазнаўцаў, гісторыкаў беларускіх.

**АЧ: Ці багата маеце рукапісаў беларускіх пісьменнікаў у зборы?**

**а. Аляксандр Надсан**: Ёсць рукапісы Купалы і Коласа - напрыклад, рукапіс слаўнай паэмы Купалы "Курган". Самы ранні рукапіс Коласа, які ёсць у нас, гэта "Другое чытанне для дзетак-беларусаў", якое выйшла ў 1907 годзе. Ёсць нешта Арсенневай, Ілляшэвіча - на эміграцыі рукапісы пісьменнікаў з Беларусі было цяжка знаходзіць. Пара вершаў Салаўя маем таксама, але я б не сказаў, што рукапісаў шмат.

**АЧ: Якія цікавыя людзі наведвалі бібліятэку? На пачатку 90-х, наколькі вядома, трaплялі і беларускія урадоўцы?**

**а. Аляксандр Надсан**: Шмат дзеячоў з усяго свету бывалі ў нашай бібліятэцы, усіх не магу прыгадаць. Сярод больш вядомых, скажам, Зянон Пазьняк, Станіслаў Шушкевіч, Пятро Краўчанка. Пісьменнікі, паэты – Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін. З палітыкаў, царкоўных дзеячоў - украінскі арцыбіскуп мітрапаліт Сліпый, усе беларускія амбасадары ў Брытаніі, Аляксандр Казулін, рэктар БДУ, Міхаіл Мясніковіч (са мною па-беларуску размаўляў). Мы ўсіх прымаем. Вельмі балюча толькі, што многія высокапастаўленыя беларускія ўрадоўцы не валодаюць і, на вялікі жаль, не імкнуцца авалодаць беларускай мовай. Добра, што прыязджаюць цэлыя групы беларусаў маладзейшага пакалення.

**АЧ: Ці праяўляла незалежная беларуская дзяржава цікаўнасць у тым, каб дапамагчы бібліятэцы?**

**а. Аляксандр Надсан**: Можа і лепш, што не (смяецца).

**АЧ: А як з акадэмічным супрацоўніцтвам?**

**а. Аляксандр Надсан**: Раней добра кантактавалі з бібліятэкай Акадэміі навук, але цяпер з гэтым стала цяжэй - і нам, і ім. Падаражэлі паштовыя паслугі, падаражэла падпіска на спецыялізаваныя часопісы. Наогул, цяпер наладзіць нейкі афіцыйны абмен з Беларуссю вельмі цяжка.

**АЧ: Ці кантачыце з падобнымі бібліятэкамі ў іншых краінах? У Празе, здаецца, беларусы нядаўна стварылі бібліятэку**

**а. Аляксандр Надсан**: Гэта толькі цяпер стварылі, пабачым, што там будзе. У Амерыцы, на жаль, нічога такога створана не было - магчыма, былі іншыя абставіны. У Амерыцы болей беларусаў, чым тут, магчымасці, у тым ліку матэрыяльныя, былі - але чамусь не склалося. Некаторыя амерыканскія беларусы набылі вялікія кнігазборы - доктар Вітаўт Тумаш (выдатны чалавек і скарыназнавец), сям'я Кіпеляў, доктар Мацьвей Смаршчок…Наколькі ведаю, сёй-той з беларусаў перадаў свае прыватныя бібліятэкі амерыканскім універсітэтам. І гэта вельмі добра – там жа кнігі не прападуць і будуць даступныя для даследчыкаў - галоўнае, каб людзі ведалі, дзе шукаць. Значную частку кнігаў людзі з Амерыкі перадалі нам у Лондан - Чэслаў Будзька з Чыкага, Антон Адамовіч з Нью-Ёрка. У Нью-Ёрку таксама была букіністычная крама, дзе я набыў нямала выданняў. Здараецца, кнігі гінуць і часам па-дурному: напрыклад, адзін чалавек у Амерыцы захоўваў іх у падвале, але прыйшла залева і ўсё заліла. Маем таксама з Амерыкі архівы біскупа Ўладзімера Тарасэвіча, святара Чэслава Гуські (вельмі цэнныя даваенныя выданні, якія яны ўсе перадалі нам).

**АЧ: Наколькі заходнія навукоўцы ведаюць пра бібліятэку і карыстаюца ёю?**

**а. Аляксандр Надсан**: Ведаюць і карыстаюцца - мы маем сувязі з брытанскімі бібліятэкамі, дзе ёсць усходнееўрапейскія аддзяленні. Супрацоўнічаем з ангельскімі ўніверсітэтамі, па матэрыялах нашае бібліятэкі было напісана ўжо шмат навуковых працаў, выдадзена перакладаў з буларускай мастацкай літаратуры. Згадаю хаця б публікацыі ангельскіх аўтараў, вядомых і ў Беларусі: св.п. Веры Рыч, св.п. Гая Пікарды, Джона Дынглі, Арнольда Макмілана…

**АЧ: Толькі з Брытаніі, ці таксама з іншых краінаў?**

АН: З Брытаніі больш за ўсё, але прыязджаюць навукоўцы і з іншых краінаў - з Амерыкі, з Ізраіля, Нямеччыны, Аўстраліі. Шмат славістаў, гісторыкаў з розных краінаў прыязджаюць і працуюць. Беларусь не вельмі вядомая ў свеце, але дзякуючы таму, што бібліятэка існуе, існуе і зацікаўленне.

**АЧ: То бок самое існаванне бібліятэкі - гэта як сцяг: раз ёсць бібліятэка, значыць людзі ведаюць, што ёсць і такая краіна.**

**а. Аляксандр Надсан**: Так, так.

**АЧ: Як Вы бачыце будучыню бібліятэкі, як яна павінна далей развівацца, на Вашу думку?**

**а. Аляксандр Надсан**: Вельмі цяжка казаць, я шмат думаю пра гэта, як і пра далейшае існаванне місіі. Зараз чакаем сканчэння рамонта Марыян Хаўс, потым хачу сабраць нашу бібліятэчну раду, каб думаць, як бібліятэцы далей існаваць. Я таксама не вечны, маючы за плячыма 85 гадоў, пара думаць пра тое, каб нехта заняў маё месца. Справа нават не фінансавая, справа ў чалавеку, які б гэтым займаўся - патрэбен руплівец, які б тут жыў і вёў бібліятэку. Калі б Беларусь была сапраўды незалежнай і беларускай, трэба было б, каб урад пераняў на сябе кіраванне бібліятэкай, і мы б з радасцю яму гэта аддалі. Як брытанцы маюць British Council у іншых краінах ці Гётэ-Інстытут, які немцы маюць, - так і Скарынаўская бібліятэка была б такім беларускім культурным цэнтрам пры амбасадзе Беларусі, які б прадстаўляў Беларусь на Захадзе. Але пры сучасных абставінах мы не можам маральна і не хочам перадаваць бібліятэку ў рукі цяперашніх уладаў, дзе нават прэзідэнт не размаўляе па-беларуску. Добра, што мы не спяшаліся рабіць гэта ў пачатку 90-х гадоў і чакалі, пакуль курс на незалежнасць і беларускасць у Беларусі замацуецца. Калі б усё развівалася так, як у пачатку 90-х гадоў, тут ужо быў бы дзяржаўны цэнтр, але пасля 1994 г. справы, на жаль, змяніліся на горшае.

Дзякуй Богу, што бібліятэка ёсць, і я думаю, што яна будзе існаваць і надалей, будзе прыносіць карысць. Хаця ў вялікай

ступені гэта будзе залежаць ад стану самой Беларусі. Калі Беларусь будзе сапраўды беларускай, тады ўрад будзе зацікаўлены ў развіцці бібліятэкі.

Цяпер даволі шмат маладых беларусаў у Англіі з добрай адукацыяй - было б добра, каб і яны бліжэй цікавіліся справамі бібліятэкі. Ёсць людзі з маладога пакалення эмігрантаў, якія далучыліся да беларускіх справаў і штосьці робяць, але большасць толькі абмяжоўваюцца ўладкаваннем сваіх прыватных справаў і, канечне, як у Расеі кажуць, "насильно мил не будешь", але гэта крышку балюча і сумна.

**АЧ: ЗБВБ - найстарэйшая існуючая арганізацыя беларускай дыяспары ў свеце?**

**а. Аляксандр Надсан**: У прынцыпе так, больш старэйшая была ў Францыі, але там ужо нічога не засталося. ЗБВБ - самая даўняя трывалая арганізацыя. Трэба толькі, каб новае пакаленне беларусаў больш актыўна спрыяла яе дзейнасці. У большасці прадстаўнікоў сучаснага пакалення такога інтарэса да беларускіх справаў не адчуваецца, не адчуваецца цікавасці нават да беларускай мовы. Гэта балюча.

**АЧ: Прычым Вам было складаней, бо тады не было нават фармальнай беларускай дзяржавы, з якой бы па вызначэнні вас замежнікі атаесамлялі. Сёння ёсць самастойная дзяржава Беларусь, і таму беларусаў, што раз шырэй пазнаюць і прызнаюць у знешнім свеце…**

**а. Аляксандр Надсан**: Раней нас запісвалі то расейцамі, то палякамі, але мы змагаліся за сваё і трымаліся свайго ад самога пачатку. Я выехаў з Беларусі ў 18 гадоў (колькі летаў і зім на чужыне!), але ж беларус ува мне не пахіснуўся.

*Лондан, 2011 г.*

# Беларускі з’езд

З немалым сумневам, чым можна было спадзявацца, сабраўся ў Мінску З’езд беларускіх дэлегатаў. Калі дасюль дзеячамі-будзіцелямі беларускае свядомасці з’яўляліся ў большым палякі і, здаралася, рускія, дык цяперашні з’езд зграмадзіў у мінскім тэатры каля 2-х тысяч удзельнікаў – пераважна сапраўдных беларусаў. Вайна апранула іх у вайсковыя шынелі, бараннія шапкі, аднак жа пераважаюць службоўцы, загрубелыя сяляне-гаспадары, настаўнікі народных школ. Усе гэта новыя людзі, прынамсі не прыгатаваныя да вялікае справы ўваскрашэння Беларусі, хаця бясспрэчна ў не аднаго з іх грукоча гарачае сэрца. Аднак перавага не на іхнім баку. Большасць прадстаўлена тымі, каго ўзняла на паверхню рэвалюцыйная хваля; не дзіўна, што цягам першых двух дзён не чутно было тут ні беларускае мовы, ні моцна заяўленых нацыянальных імкненняў. Наадварот, у зацятай перапалцы “буржуяў” і “таварышаў” не сціхалі партыйныя спрэчкі за колькасць месц за прэзідыяльным сталом.

Невыпадкова, тры дні патрачана на ўрэгуляванне арганізацыйнага пытання: ці лічыць гэты сход паўнамоцным з’ездам, ці толькі падрыхтоўкай да з’езду, запланаванага бальшавікамі на 15.12. Перамагло першае рашэнне. Прагучэў беларускі гімн у суправаджэнні аркестра, на фоне нацыянальных колераў. Пачуліся моцныя выступленні, упершыню па-беларуску; мовай прыкметна пакалечанай, але ж нашай краёвай, беларускай, якой мы не чулі тут ад часоў Ягелонаў, Баторыяў, Вазаў! Але ж якая паэзія струменіць з гэтае недасканалае беларусчыны. І мы, палякі, шчыра радуемся, што абок гучнай і чутнай нашай пальшчызны загучэла мова пераважаючай большасці тубыльцаў нашага краю, мова, якую мы прызвычаены ад нараджэння не толькі слухаць, але і карыстацца ёю каля дому.

Устрапянулася, такім чынам, нацыянальная думка беларуская – ганьбаваная праз доўгі час рознымі партыямі і камітэтамі, абуранымі нават ужываннем мясцовай мовы і нават дамагаючыся ў прэзідыўма ўдакладніць веравызнанне дэлегатаў.

Аднак жа, ўслухаўшыся ў агульны настрой у кулуарах, вызначаецца ён прынамсі не справай беларускай, хутчэй каства эканамічнай, што як целу без душы не можа даць шчасця.

А гэта цела, пульсоўнае братняй крывёй і рашучасцю, усё ж такі не адорыць свет высокай культурай – творчастваральным вынікам наяўных у краі стыхій. Яно можа прадуктаваць Тамерланаў і Мураўёвых, але ніколі таго, што ажыўляе Заходнюю Еўропу.

Вось жа шчыра верым: урэшце рэшт пераможа [на з'ездзе] тая самая меншасць, якая лепш ад іншых разумее патрэбы сваёй айчыны.

*Пераклад з польскае:*
*Dziennik Miński. 12 grudnia 1917, №136*

## Резолюция
## Белоруссов-воинов и гражданского населения Смоленска

1917 года Декабря 21-го дня. Гор. Смоленск.

Мы ВОИНЫ-Белорусы всего Смоленского гарнизона, Окружной Исполнительный Комитет Белорусской Рады Минского Военного Округа и гражданское белорусское население гор. Смоленска и белорусы уездов Смоленской губ. на общем собрании выслушав доклад наших делегатов Всебелорусского Съезда о совершенном Советом Народных Комиссаров Западной Области насилии, выразившемся в аресте президиума и членов Великой Краевой Белорусской Рады в гор. Минске в ночь на 18 декабря и принимая во внимание:

1/ что возмутительное насилие явно нарушает священнейшее право Белорусского народа на национальное самоопределение и завоевания революции,

2/ что с одной стороны право на самоопределение Белоруссии подтверждено Советом Народных Комиссаров и в тоже время, с другой стороны, право это нарушается исполнителями распоряжений Народных Комиссаров и

3/ что подобное явление подрывает всякое доверие к Совету Народных Комиссаров,

ПОСТИНОВИЛИ: выразить возмущение и протест против действий Народных Комиссаров Западной области, посмевших посягнуть на священное право Белорусского народа на самоопределение и на защиту своей судьбы. Мы во всеуслышание заявляем, что не потерпим насилия тех, кто посягнул на право молодой Белоруссии, должной стать великой частью будущей федеративной Российской Республики и ни на минуту не колеблясь выступим против насильников в открытую и решительную борьбу для защиты священного для каждого из нас права на самостоятельное устроение нашей судьбы. Мы требуем, чтобы лица, учинившие насилие над президиумом и членами Великой Краевой Белорусской Рады, были преданы Народному революционному суду и чтобы арестованные выразители воли Белорусского Народа немедленно были освобождены. Мы, воины-белорусы, приветствуем Великую Краевую Белорусскую раду,

стоящую на страже защиты интересов Белорусского Народа, и выражаем свое соболезнование всем членам Рады, над которыми совершено дикое насилие ничтожной кучкой насильников.

Настоящую резолюцию скрепить подписями всех присутствовавших на собрании воинов-белоруссов и послать через Смоленскую Окружную Раду в Великую Белорусскую Краевую Раду, Учредительное Собрание, в Совет Народных Комиссаров Западной области и опубликовать в газетах.

Окружной Исполнительный Комитет воинов-белоруссов Минского Военного Округа и гражданского населения Смоленской губернии.

Исполнительный Комитет Смоленской Белорусской Рады.

*Аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Літвы. 2198.VBF-LXXV. Машынапіс.*

**Раман Суніца** [1]

# Лісты з Менску

Палякі і расейцы ў Менску спудзіліся: яны зразумелі, што такім чынам бальшавікі, прызнаўшы незалежнасць Беларусі, будуць мець надта моцныя казыры ў руках, што бальшавізацыя Беларусі пойдзе вельмі шпарка, што іх роля як цывілізатараў-каланістаў скончана.

Адным словам, ніхто апрача беларусаў Маніхвэстам незалежнасці [2] задаволены не быў. Усе, нават бальшэвіцкая ўлада ў Менску, пачалі пратэставаць проціў гэтага.

Паводле вестак, якія мы здабылі ад адзінокіх беларусаў, каторыя ў Маскве былі сведкамі справы апублікавання незалежнасці Беларусі, галоўным ініцыятарам гэтага быў Ленін. Не маем ніякіх доказаў, каб Ленін зрабіў гэта з якой крывой мэтай.

Як ідэйны сацыяліст Ленін прызнаў права незалежнасці Беларусі дзеля таго, што яму ўсё ж такі даражэйшы сацыялізм, чымсьці русіфікацыя. За цэлы час нямецкай акупацыі Ленін цікавіўся беларускім нацыянальным рухам, чытаў усё, што толькі друкавалася аб беларусах. У гэтым памагаў яму Беларускі Нацiянальны Камітэт у Маскве, дзе ўсе газэты з Беларусі і Украіны былі прагледжаны, роблены вырэзкі, пераклады з беларускай мовы на маскоўскую і ўсё гэта наклеівалася ў альбом з загалоўкам “Белорусский вопрос” і затым пасылалася Леніну да чытання.

<...> Пастанова Леніна аб незалежнасці Беларусі праведзена, як заўважыў адзін маскоўскі бальшавік, у размове з беларусамі “нягледзячы на пратэсты і нязгоду “праўдзіва расейскіх” патрыётаў тыпа Троцкага, Стеклова і ім падобным.

<...> Ад самага пачатку бальшавізацыі Беларусі прыйшлі да ўлады, асабліва ў Менску, амаль адны жыды. Такога жыдоўскага панавання яшчэ ніколі не было. І вось 9 лютага г.г. падчас спэктакля ў беларускім тэатры арыштавалі ўсіх бальшавікоў з першага беларускага часовага ураду. Былі арыштаваны: Фальскі, Дыло, Шантыр і колькі іншых.

Апрача бальшавікоў, арыштавалі і прафэсара вышэйшай вучэльні – Інстытута, кандыдата філёлогіі Тарашкевіча. Беларускім

бальшавікам ставілі ў віну маскіраваны нацыяналізм і контррэвалюцыйную дзейнасць.

<...> *Рэлігійнае жыццё*. 6-га снежня 1918 зранку ў Катэдральным касцёле адбывалася першая афіцыяльная беларуская імша. Служыў сам біскуп Лазінскі, падчас імшы пяяў хор па-беларуску рэлігійныя песні пад кіраўніцтвам рэктара семінарыі кс. Абрантовіча. Бабы, польскія дэвоткі, прабавалі заглушыць хор польскімі песнямі, але ім гэта не ўдалося. Неспадзяванку зрабіў беларускі біскуп сваім беларускім казаннем. Было яно сказана ад сэрца, горача і добра па-беларуску. Бабы-дэвоткі ажно разявілі вусны, пабачыўшы і пачуўшы гэткае дзіва. У касцёле былі ня толькі каталікі, бачылі яны многа і праваслаўных, каторым усё страшна спадабалася і выйшлі яны пасля сканчэння імшы з касцёла з вялікім уражаннем, апавядаючы ўсім, што ніколі гэткага гістарычнага радаснага дня не забудуць. Цяпер пастаянна беларуская імша кожную нядзелю адбываецца ў капліцы “Добрачыннасці” (Багадзельная вуліца) ад 11 да 12 гадзіны; у канцы заўсёды з чытаннем па-беларуску Евангелля і з беларускім казаннем. Народу паўнюсенька: ходзяць як каталікі, так і праваслаўныя.

Справа беларускае мовы ў касцёле дзякуючы біскупу Лазінскаму пастаўлена ў Менску моцна і фундаментальна.

З парадкаў у Менску мала можна адзначыць: чужыя нам людзі, ворагі нашае мовы і народа думаюць адно – аб напаўненні сваёй кішэні. Ад людзей, каторыя нічым з нашым краем на звязаны, патрэб яго, характара і звычаяў ні знаюць і прынцыпіяльна гэтага ўсяго не прызнаюць, дабра ці карысці спадзявацца нельга.

Ці народ наш можэ пранікнуць бальшавіцкім духам? Не, ніколі!

Рэпутацыя з 1917 у Мінску паноў Мяснікова, Крывашэіна, Рэзаўскага і таму падобнае ідэйнае хеўры. Усе яны, апрача Ляндэра, які мусі быць ашчасліваў сваіх латышоў, працуюць у Менску з зялёнымі мордамі ад пастаяннага п’янства і распусты.

Праціўнікі незалежнае Беларусі гвалтам аддзялілі ад жывога цела Беларусі Віцебшчыну, Магілёўшчыну (нікога не пытаючы).

Са шкод, зробленых бальшавікамі ў Менску. Нацыяналізацыя па-бальшавіцку. Антыквар жыд Замскоў усё цягае ў сваю калекцыю. Аграбілі музэй Магдалены Радзівіліхі (мэблі, старыя тканіны, вопраткі), у тым ліку слуцкія паясы, якімі захапляўся

Менск на беларускай выставе. У памяшканні – польскія камуністы з рэдакцыяй [газеты] "Młot". Разгромлена этнаграфічная калекцыя Р.Зямкевіча. <...> Месячнік "Варта" – выйшаў з лруку да прыхода бальшавікоў – канфіскаваны (не спадабалася бальшавікам стацця Езавітава).

У Менск прыехаў наш вялікі паэт Янка Купала.

Менск, 23 лютага 1919 г.

*Бацькаўшчына. Беларускі сацыялістычны тыднёвік. Горадна, 21 сакавіка (марца) 1919. №2*

---

1. Р.Суніца – псеўданім Рамуальда Зямкевіча (1881-1944?), пісьменніка, публіцыста, калекцыянера.
2. Маніхвэст Часовага работніча-селянскаго савецкаго правіцяльства Беларусі // 1 января 1919 года. Временное рабоче-крестьянское советское правительство Белоруссии. Документы и материалы. Составители: В.Д.Селемнев (руководитель), Е.И.Барановский, А.Н.Гесь, В.В.Скалабан. Мн.: «Лимариус», 2005. С.17-22.

# Прызнанне незалежнасці Беларусі

16 лістапада 1920 г. у Мазыры паміж Расійскім Палітычным Камітэтам у асобе старшыні яго Б.Савінкава і Расійскай Народнай Ахвотніцкай Арміі ў асобе камандуючага ею ген. Булак-Булаховіча з аднаго боку і Беларускага Палітычнага Камітэта ў асобе яго старшыні – з другога адбылася ніжэйшая ўмова.

Расійскі Палітычны Камітэт і Расійская Народная Ахвотніцкая Армія, асноўваючыся на прызнанні самавызначэння народаў, прызнаюць факт незалежнасці Беларускай Дзяржавы. Аканчацельная форма ўзаемных адносін паміж Расіяй і Беларусю будзе вызначана са згоды паміж Установчымі Соймамі Рускім і Беларускім, або Урадамі, гэтымі Установчымі Соймамі ўстаноўленымі. Абедзве стораны перакананы, што формы гэтыя будуць дастойны абодвух свабодных братніх народаў і будуць адпавядаць іх жыццёвым інтарэсам.

Затым ідуць пункты вайсковыя, не падлягаючыя апавяшчэнню.

Арыгінал падпісалі:

Галоўнакамандуючы аружнымі сіламі на тэрыторыі Беларусі генерал-маёр Булак-Булаховіч.

Старшыня Расійскага Палітычнага Камітэту В.Б.Савінкаў

Старшыня Беларускага Палітычнага Камітэту В.А.Адамовіч

Член Беларускага палітычнага Камітэту П.П.Аляксюк

*Беларускае Слова. Палітычная, літаратурная і эканамічная газэта. Горадня, 1 снежня 1920, №50*

## “Пойти навстречу самостоятельному течению...”

30.XII.[19]20 года
В Политбюро Ц.К. Р.К.П.

Тов. Червяков, Председатель Белорусского Совнаркома, указывл на крайне ненормальное положение Белоруссии ввиду невыясненности её отношений к РСФСР. Когда белорусы обращаются в наши учреждения, им отвечают, что ничего не могут для них сделать, потому что они – другое государство. В самой Белоруссии в крестьянских массах значительно выросло самостоятельное течение и для того чтобы с ним иметь дело, необходима ясность положения. Тов. Червяков находит вполне целесообразным применить к Белоруссии ту же систему, которая имеется у нас по отношению к Украине. Мы должны пойти навстречу самостоятельному течению в Белоруссии, так как в противном случае другие им овладеют. Однако на Парижской конференции не следует вводить Белоруссию, как непосредственного участника, а надо ограничиться имеющейся уже сейчас комбинацией, т.е. мандата от Белоруссии Правительству РСФСР, который был подтвержден Белорусским съездом Советов без непосредственного мандата от Белорусской делегации в Риге. Делегация остается русско-украинской, но правительство РСФСР, как Правительство, имеет полномочия от Белоруссии. Итти за пределы этой комбинации нецелесообразно, так как в Белоруссии на уездных съездах уже поднимались разговоры о том, что она разрезана новой границей и что надо заявлять о необходимости возвращения польской Белоруссии и литовской Белоруссии, так что в случае появления непосредственно Белорусской делегации в Риге она там опрокинет все наши дипломотические комбинации. Н.К.И.Д. согласен и с тем, что в Риге надо ограничиться имеющейся теперь комбинацией и с тем, что на будущее время надо установить относительно Белоруссии те же отношения, как относительно Украины, но только ввиду того, что Белоруссия представляет только несколько уездов, а не 12 губерний, как Украина, апарат д.б. менее сложным. В Харькове имеются

постоянные представители Московских Комиссариатов; в Минске было бы достаточно временных наездов представителей Москвы.

Выработку Договора с Белоруссией надо предоставить федеральной Комиссии с тов. Каменевым во главе, с участием Н.К.И.Д. и Белорусского Совнаркома.

Наркоминдел Чичерин

Дальше, под машинокопией текста, следует рукописный автограф: «Предлагаю т. Крестинскому (+ Сталину) 1) Каменеву и его Комиссии дать формальное поручение в Политбюро с записью в протокол 2) Червякову поручить спешно выработку проекта детального письма ЦК РКП о Белоруссии и декрета СНК о том же (тайного). Ленин».

Ниже, другой рукой, без подписи (вероятно Крестинского): «Я присоединяюсь к предложению Ленина с тем, что просит письма и декрета, если т. Червяков уехал был возложен на [того же?] Каменева, а потом послать на заключение ЦБ Белоруссии (Червяков, Кнорин и др.). Опросить, Троцкого, Каменева, Сталина».

Ниже - иным почерком: «За Троцкий. За предложение Ленина безоговорочно тов. Сталин. Тов. Каменев присоединяется к предложению т. Ленина с поправкой т. Крестинского написать письмо и декрет поручить тов. Чичерину».

*Российский государственный архив социально-политической истории. Ф.2, оп. 1, д. 25726, л. 1.*

## Пётра Крэчэўскі – таварышам [ у Літве]

13.04.1924 г., Прага

Ад ліста Аляксандра [Цвікевіча] нясе такой затхласцю і гніллю, што проста сумна чытаць. Гэта не ліст маладога байца-адраджэнца за Беларусь, а якогась інваліда, якому ў першай бойцы паадбівалі рукі і ногі і ён жаліцца, што не можа жыць уперадзі, а яго павінны цягнуць ззаду.

Пакуль што нікому не жывацца добра. Вы адарваны ад нас і Вам цяжэй, я гэта разумеў, калі ў свой час цягнуў абавязкова Аляксандра ў Прагу. Гэта не выключана, і цяпер і я пэвен, што хоць не было б лепш, але весялей і больш прадуктыўна, ніж у Коўне. Пакуль аб справе больш нічога не буду пісаць, бо мы толькі чакалі Г[рыба?], каб сумесна падняць справу.

<...> Ёсць чутка і мусіць пэўна ёсць, што з восені Аляксандр збіраецца ў Менск, бо нават аб гэтым сястра яго пісала… Гэта больш падобна на зменавехаўства. Гэта смешна, але падобна праўдзе. Тут не памогуць нам ніякія канкурэнцыі, бо ні з Менску, ні з Вільні мы нікога не дастанем, а лаяцца паміж сабой няма ніякага сэнсу. Трэба цвёрда весьці сваю лінію да канца, не гледзячы ні на якія перашкоды.

Замест пэсымізму, які разводзіш, то бы лепш напісаў мэмарандум Мак-Дональду, абяцаў зрабіць, а разумееца, нічога не зрабіў. А ў яго былі Недзялкоўскі і Жулаўскі: гаварылі аб Усходняй Галіччыне і Беларусі, што гэта справа “не народовосьцёва”*…

Пасля польскай ноты 04.04.24 я паслаў Мак-Дональду тэлеграму з пратэстам. Яна маецца ў Бухава, папрасі, каб надрукаваў.

<...> У Літве мы гаварылі б больш, каб там не было Аляксандра…

P.S. Грошы нам усім зменшылі на 200 крон.

*Нацыянальны архіў РБ. Ф.62, воп.1, спр. 198, л.152-153 адв.*
*Рукапіс. Аўтограф.*

*/ narodowościowa – нацыянальная (*польск.*)

**Александр Цвикевич**

# Записка о современном состоянии белорусского вопроса и вероятных возможностях в близком будущем

Общая характеристика.

В белорусском движении в данный момент существует три оправных центра: Минск – во главе с Белорусским Советским Правительством, Вильна (эвентуально Варшава) – во главе с Вил[енским] Нац. Комитетом (эвентуально – Белор. Посольским Клубом) и эмиграция во главе с Белорусским Национальным Правительством.

1. Положение Минска со стороны общеполитической в орбите Советского Союза известно: здесь имеют место все плюсы и минусы, которые характеризуют состояние советского правительства в политической и экономической плоскостях. Что касается Минска как центра специально белорусской национальной работы, то необходимо признать, что его положение - сравнительно с двумя остальными центрами - более выгодно и устойчиво. Общесоюзное советское правительство определенно протежирует Минску, строя на нем (совместно с Сов. Украиной) свою борьбу с Польшей. Минск сознательно поддерживает эту тенденцию Москвы, ибо ничего кроме выгоды для себя от нее не видит: на пути этом он получает поддержку в национальном возрождении Белоруссии и надеется в результате присоединить к себе Западную Белоруссию. Положение Советской власти в деле национального возрождения Белоруссии двойственно: с одной стороны она его поддерживает, с другой стороны она его опасается, что вызывается главным образом неизбежностью национального белорусского сепаратизма ввиду закона национального возрождения. Для противодействия этой неизбежности РКП стремится утвердить в умах минских национальных деятелей так наз. “марксистское” понимание национальной проблемы, чему служат как периодическая местная пресса, так и специальные издания. В последние месяцы минский центр может отметить у себя два крупных успеха: расширение Сов. Белоруссии на восток (Витебская, Могилевская и часть Смоленской губернии) и переход

основной группы партии белорусских С[оциалистов]-Р[еволюционеров] на коммунистическую платформу. Борьба за расширение Сов. Белорусии велась уже два года, причем не только на месте (в Минске и Москве), но и в Западной Белоруссии, под польской оккупацией и в белорусской эмиграции. Все сознательные силы движения, независимо от мест действия и программы, добивались этого расширения – разумеется, каждый на свой способ, ибо видели в этом прежде всего задачу общенациональную. Что касается партии бел. С-Р., бывшей до последнего времени нелегальной, то декларация ее от 1 марта с.г. объясняется, по нашему убеждению, не столько внутренними причинами, сколько внешними – именно признанием СССР великими державами Запада и кризисом белорусских сил, работающих за границей Советского Союза.

2. Центр движения в Западной Белоруссии под польской оккупацией в лице Вил. Нац. Комитета и Посольского Клуба переживает в данный момент весьма серьезный кризис. Здесь уже с достаточной ясностью определился раскол на две группы: первая считает необходимым вести борьбу против оккупации, опираясь на содействие Минска, а вторая ищет выхода из невыносимого положения в союзе с левыми польскими группами. Обе группировки в конечном счете стоят за независимость Белоруссии и в этом смысле поддерживают контакт с нашей группой, но в своей тактике расходятся весьма сильно. Первая группа – наиболее численная – все более и более подпадает влиянию советской политики и считает единственно реальным результатом борьбы объединение Зап. Белоруссии с Минском, а вторая – выдвигает программу автономии Зап. Белоруссии в составе Польши, полагая со своей стороны, что только эта программа наиболее реальна при существующем соотношении сил России и Польши. Весьма понятно, что чем далее будет идти дифференциация в тактике и чем далее будет продолжаться кризис деятельности Белорусского Национального Правительства, тем более будет укрепляться раскол, который, при удачных и своевременных уступках со стороны польского правительства может привести к разрыву до сих пор единого белорусского национального фронта. Таким образом, временное и якобы исключительно тактическое расхождение может повлечь за собой открытую борьбу двух ориентаций, гибельную для всего возрождения Белоруссии. Это положение станет

особенно опасно в том случае, если польскому правительству, весьма, кстати сказать, неумело ведущему свою политику в отношении белорусов, удастся вклинить между двумя тактиками религиозный вопрос и перетянуть на свою сторону белорусское католическое духовенство.

3. <...> Белорусское Национальное Правительство также в настоящее время переживает кризис. Причина кризиса лежит в Литве, которая до последнего времени служила главной базой, главной опорой работы. Нынешняя литовская политика, вдохновляемая христианско-демократической партией, [очевидно?] сознательно ослабила нашу позицию, ибо, во-первых, она опасается роста белорусского движения в Виленском округе, а во-вторых, - и это специальное опасение литовских клерикальных кругов – они боятся поддерживать нашу патриотическую группу, идеологически им неподходящую.

Этими двумя обстоятельствами, говоря коротко, объясняется запутанность и противоречивость нынешней литовской политики в белорусском вопросе. Единственно ясно и твердо проводимое положение литовской политики в отношении белорусов – это стремление лишить их самостоятельной программы и, грубо говоря, взять их на службу с тем, чтобы обезопасить себя в будущем от возможных экспериментов. Бел. Нац. Правительство отвергло подобную служебную роль и тем самым лишило себя литовской поддержки.

<...> Слабость Бел. Нац. Правительства влечет за собой потерю его влияния в Зап. Белоруссии, а это ослабление демократических сил в Сов. Белоруссии, [что] неизбежно ослабит позиции Минска. Вследствие связанности белорусского политического фронта и вследствие отсутствия в белорусском движении ярко враждебных идеологий («марксистское» учение Минска для нац. дела фактор не серьезный) упомянутая связанность вполне понятна.

Поддержка, оказываемая чехословацким правительством белорусскому народу, последним никогда не будет забыта. Но благородный акт Чехословакии может быть серьезно оценен белорусским обществом и широкими массами только при условии, если направление общественной жизни края будет находиться в рамках тех групп, которые наиболее близки идеям и задачам чешской политики. Я смею думать, что именно платформа нашей

группы наиболее близка к этому и потому я считаю для себя возможным, обрисовав вкратце современное состояние белорусского вопроса, возбудить перед Вами вопрос о той роли, которую Вы можете принять в его направлении в данный момент. Необходимо признать и твердо подчеркнуть, что именно в нынешний момент кризиса белорусского движения в Западной Белоруссии Ваше мнение может быть весьма важным и даже решающим.

Июль [19]24.

*Национальный архив Республики Беларусь.*

*Ф.325. Оп.1.Д.217, л.л. 74-78. Машинопись, правленая. Автограф.Публикация В.Д.Селемнева*

# Операция “БНР”. Московский сценарий

*По архивным материалам Историко-документального департамента МИД Российской Федерации (Ф.0215, папки Представителя Народного Комиссариата Иностранных Дел СССР при Правительстве БССР).*

№1

*Уполномоченный Наркоминдел в БССР*
*т.Итви – Зав.Подотделом Прибалтики и Польши т.Б.Е.Штейну.*
*10.01.1925 г.*

«Вопрос этот [о закордонном белорусском движении] особенно после выступления т.Червякова вызвал очень оживленные дебаты и больше всего положение «О немедленном вступлении в переговоры с группой Цвикевича». Тов. Криницкий решительно протестовал против каких бы то ни было переговоров с Цвикевичем. «Хотя я мало, может быть, знаком с белорусским вопросом, тем не менее, по-моему,- это дипломатический фетишизм,» - сказал он, - и [нет смысла] «рассматривать какие-то микроорганизмы как какой-то большой фактор в международной политике». Я вынужден был отвергнуть подобное утверждение, указав, что микроорганический белорусский вопрос играет все же довольно большое значение в общей политике СССР и в частности имеет колоссальное значение для тактики не совсем микроскопической Советской Республики, где работает сам Криницкий <…> Тов.Червяков обращал внимание т.Криницкого, что он не понимает характера его выступления, что он только информировал о предложении НКИД, не внося лично никаких предложений. Я высказал предложение на приезд Цвикевича в Минск на какой-нибудь съезд, не советский, а именно общественный -культурный, научный. На этом съезде можно было бы выявить т. Цвикевича и после этого поставить вопрос о (может быть) самороспуске белорусской организации.

Общее решение вынесено о ликвидации правительства БНР (один из способов – по линии НКИД с обоснованием требования перед Литовским правительством, чтобы на территории Литвы не

было никакой организации, противоречащей международным отношениям дружественных суверенных государств).

Уполномченный Наркоминдел
(Итви)

№2

*Протокол заседания НКИД*
*по белорусскому вопросу 3 апреля 1925 г.*

Присутствовали т.т. Аралов, Боркусевич, Гельтман и Славинский
Председателем т.Аралов. Секретарь Боркусевич.
Слушали доклад т. Славинского о положении белорусского вопроса в Польше. Для урегулирования целого ряда белорусских дел Правительство Белоруссии считает необходимым иметь при Полномочном Представительстве в Варшаве Советника, на что Белоруссия имеет право по Конституции. Такой советник руководил бы своей белорусской работой за границей и мел бы связь с одной стороны с БССР, а с другой – с белорусскими закордонными [организациями] и белорусской эмиграцией. Персонально Белорусское Правительство намечает т.Ульянова <…>
Постановили. Тов. Аралову поставить на коллегии НКИД вопрос о назначении Советника от БССР в Варшавском Полпредстве. Рекомендовать на эту должность т. Ульянова.

№3

*Выписка из доклада тов. Соболевского от 14 июля 1925 г.*
[повереннного в делах СССР в Литве]

13-го [июля], как было условлено, был у меня Цвикевич, - произвел на меня впечатление человека бесхарактерного, но довольно искреннего и порядочного, которого можно подчинить нашему влиянию. <…> Поездке Цвикевича в Минск необходимо содействовать всемерно. Для Цвикевича будет полезно подышать советским воздухом и установить связь с белорусским центром.

Мне кажется, что наша политика по отношению к белорусской эмиграции должна состоять в том, чтобы отколоть все более или менее здоровые элементы и использовать их на той или иной работе в Советской Белоруссии или за рубежом, но под нашим руководством и по нашим определенным заданиям.

Что касается остальных, которых не удастся притянуть к себе, то пусть они гниют и идут ко дну; пусть обивают пороги германских, чешских и литовских передних, получая свои «чаевые» и воображая себя при этом государственными людьми Белорусской Народной Республики.

* * *

Только что был Цвикевич, который явился ко мне, чтобы закончить разговор, начатый им с тов.Лоренцем в моем присутствии 8 июля. Речь шла о дальнейшем существовании в Литве белорусской базы, о незаинтересованности польского правительства белорусским вопросом. Собеседник посоветовал Цвикевичу и Головинскому послать в БССР и убедиться, что только там решается белорусский вопрос. Цвикевич согласен, но только при конспиративных условиях и одному <…>, завтра даст ответ.

Прощаясь, он снова справился выяснить точку зрения Полпредства на вопрос о создании Национального Белорусского Комитета, о сохранении литовской базы. Я ответил, что свою точку зрения выскажу и запрошу Москву.

В заключение Цвикевич с довольно смущенным видом сказал, что если бы Москва отнеслась положительно к их планам, то она, может быть, оказала и финансовую поддержку, что ему очень неловко об этом говорить, что они возьмут в долг, который вернут нам из тех сумм, какие получат от литовского правительства. Я ответил, что напишу в Москву. Я забыл сказать, что Цвикевич довольно торжественно подчеркнул, что он говорит от имени не только ковенской, но и пражской группы белорусских деятелей. Цвикевич просил встречаться с ним конспиративно, так как ему неудобно приходить к нам в Полпредство. Я не возражал против этого.

№4

*Уполномоченный Наркоминдел в БССР С.Козюра – в Подотдел Прибалтики НКИД*
*т.Боркусевичу, 29 августа 1925 г.*

При настоящем препровождаю для сведения, согласно Вашей просьбы, 6 экз. письма т.Цвикевича на белорусском языке и 1 экз. перевода на русский язык.

Приложение: упомянутое.

С.Козюра

Копия письма Цвикевича:

Дарагія таварышы,

Што трэба рабіць у сувязі з прадстаячай у Берліне канферэнцыяй. Заміранне беларускага пытання ў палітыцы Літвы і Польшчы. Ілюзія культурнай працы як сродка выбаўлення Беларусі і адваявання Вільні і Віленшчыны.

Мейсца партызанскіх груп заняў Ластоўскі са сваім Слоўнікам. Хаця "Крывіч" піша супраць палякаў, але палякі наогул супраць працы Ластоўскага нічога не маюць. "Культурная акцыя" ім ня страшна.

Ідэя склікання Агульна беларускай канферэнцыі ў Берліне, выказаная намі, была сустрэта Іонасам-Ластоўскім яшчэ больш варожа, чым ідэя Камітэту [Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Літве].

<…> Мы кажам: барацьба супроць Польшчы не павінна другім канцом быць скіравана супроць Менску. Мы павінны тварыць дзейны і дысцыплінаваны трыкутнік: Вільня – Менск - мы за кардонам. Канферэнцыя павінна абраць Цэнтральны Камітэт за кардонам. Гэты Камітэт будзе дагаворвацца з Літвой. Магчыма Канферэнцыя абгавора пытанне мандату БНР. На ёй мы павінны ўсе сустрэцца і абмяняцца думкамі. Наогул аб ўсім далейшым, аб нашай бліжэйшай будучыне.

Грошы на Канферэнцыю дае нам Літва. У нас саміх – поўны брак. Што рабіць – будзем карыстаць. Вам вышлем патрэбную, па магчымасці вялікшую суму, каб хапіла на 4-6 дэлегатаў. Зрабіце ўсё ад Вас залежнае, каб гэтыя дэлегаты прыехалі. Мы будзем мець

“мёртвую барацьбу” з літоўскай дэфензівай. Вы не павінны [два словы нечыт.], бо калі Край будзе маўчаць, дык нам будзе вельмі трудна супроц тых, хто мае за сабой і фінансы, і апарат улады, і халуёў, якія гатовы служыць за грошы самому чорту.

Бывайце здаровы. Моцна цісну руку ўсім таварышам.

(Цвікевіч)

Алоўкам: Ульянов, п/д 24818

№5

*Отдел Прибалтики*
*5 сентября 1925 г.*
*№24568*

*Полпреду СССР в*
*Берлине – тов. Крестинскому*
*Праге – тов. Антонову-Овсеенко*
*Риге – тов. Черных*
*Ковно – тов. Александровскому*

При сем сопровождается для сведения копия письма т.Цвикевича от 15 июля с.г.

Приложение: упомянутое

Зав. Подотделом Прибалтики и Польши (Боркусевич)

Референт (Левкович)

№6

*Записка [А.Цвикевича]*

Копия. Сов.секретно
Машин. 1 экз.

<…> Наше стремление - сохранить литовскую базу борьбы против Польши [через] возникновение в Литве Белорусского Национального Комитета, вопреки группе Ластовского и ее так называемой “культурной работе”.

Комитету без денег очень трудно работать и тем более созывать Конференцию, предполагаемую в Берлине.

Задачи конференции: 1) обезвредить служебную роль Ластовского в отношении Литвы; 2) договориться с Литвой

относительно борьбы против польского захвата; 3) консолидировать белорусские силы за границей, т.е. в Латвии, Литве, Чехословакии и других местах и [определить] твердую политическую линию на будущее. Конференции предполагается обсудить вопрос о мандатах БНР – в форме или передачи их Минску или учреждении Главного Комитета за границей. С точки зрения интересов борьбы с польским захватом последнее представляется белорусам более целесообразным.

<…> Принимая во внимание, что осуществление изложенной программы непосредственно связано с интересами Советского Союза, мы убеждены, что Советское Правительство поможет нам как материально, так и политически.

4 августа 1925 г.

С подлинным верно: (подпись)

№7

*Уполномоченный НКИД*
*При Правительстве БССР*
*15/VIII.1925 г.*
*№345*

*Сов.секретно*
*Члену Коллегии НКИД СССР*
*Тов. Аралову*

При сем препровождаю постановление ЦК КПБ по вопросу предполагаемого съезда белорусских организаций в Берлине группой Цвикевича [документ №8].

Записка Цвикевича по этому вопросу передана тов. Чичерину по линии ГПУ [документ №6].

Это постановление сообщаю Ульянову и Славинскому, которые сейчас в Данциге.

Уполномоченный НКИД С.Козюра
*Подпись. Автограф.*

№8

Протокол №
Закрытого заседания Секретариата ЦК КПБ от 14 августа 1925 г.

Присутствовали: т.т. Криницкий, Гессен, Опанский, Иссак, Козюра
Слушали: Информацию Опанского

1. Признать целесообразным созыв группой Цвикевича в Берлине Белорусской конференции при 7-ми обязательных условиях:
а) Предварительное признание Минска как единственного культурного и политического центра, на который должно ориентироваться белорусское движение Польши, Латвии, Литвы и др.; внесение в декларацию (см. п. «В» этого признания). Борьба против попыток иностранных правительств взять белорусское движение в свои руки.
б) Отказ от ориентации на Лигу Наций.
в) Предварительная, до Конференции, передача полномочий БНР Правительству БССР в форме декларации, в крайнем случае, с условием опубликовать ее тогда, когда это не повредит созыву Конференции (учитывая опасность высылок и т.д.).
г) Поддержка всемерно съезда белорусоведов в Минске, недопущение какого бы то ни было противостояния ему Берлинской конференции.
д) Признание нецелесообразности создания центра белорусского движения за границей, в крайнем случае, согласиться на съезд центра в Минске (на территории БССР) с советской ориентацией.
е) Согласие этой группы действовать в полном контакте с Рабоче-Селянской Громадой при Польском Сейме.
ж) Откол на Конференции группы Цвикевича, если большинство Конференции не примет [перечисленных выше] условий.

2. При принятии условий финансировать группы.

Секретарь ЦК КПБ (А.Криницкий)
Печать.

С подлинным верно: (подпись)
Машинопись. 1 экз.

№9

Постановление ЦК КП(б)Б
от 13.09.1925 г.

1. Белорусский Комитет, будь он избран на Берлинской Конференции, даже при условии сложения полномочий БНР, окажется силой против СССР, будет использован в белорусском вопросе, ослабит позиции СССР. Его образование будет рассматриваться БССР как выступление против БССР.

2. Поставить перед группой Цвикевича категорически вопрос: либо принять все условия БССР [документ№8], либо БССР отказывается от каких-либо переговоров с группой Цвикевича в дальнейшем и начинает против них борьбу.

3. Необходима, подтверждаем по-прежнему, наиболее «громкая» декларация Цвикевича в пользу БССР, сложение полностью БНР перед БССР сторонниками ориентации на БССР.

№10

*№24722/ПБ*
*Полномочному Представителю СССР в Литве тов. Александрову*
[б/даты]

Уважаемый Сергей Сергеевич,

Только что приехал из Минска т.Козюра, с которым мы имели здесь совещание [по] белорусскому вопросу. Тов. Козюра окончательно убедил нас в правильности позиции Минска. Прилагаю при сем выписку из протокола совещания при ЦК. Просим Вас окончательно договориться с Цвикевичем относительно проведения этого постановления в жизнь (о нецелесообразности создания какого-либо Белорусского комитета за границей, ибо при возвращении Цвикевича в Минск, там остается Ластовский и представитель группы польской охранки в лице Виленского комитета Павлюкевича).

По вопросу о дальнейшем субсидировании Цвикевича. Высылали [слово нечит.] всю переведенную Вам сумму в 3000 рублей, но гарантируйте себя заранее от какого-либо подвоха со стороны Цвикевича, к которому белорусы относятся все-таки настороженно <…>

С коммунистическим приветом,

Боркусевич

№11

*Боркусевич – В.В.Молотову*
*в ЦК ВКП(б) 23.09.1925 г.*

Тэкст апублікаваны раней: Скарыніч. Вып. 6.М., 2006.С.77

№12

*Протокол*
*Совещания по белорусскому вопросу*
*17.10.1925 [НКИД СССР]*

Председатель тов. Аралов
Секретарь тов. Карский

Присутствуют т.т. Александров, Боркусевич, Войков. Игнатовский, Козюра, Криницкий, Майский и Славинский.

<…> *Тов. Козюра*. Тенденция к созданию Всебелорусского комитета в Литве вредна. Группа Ластовского не представляет опасности. Положение изменится, если ему удастся белорусских национальных христианских демократов. Общие задачи. Национальное движение перевести в классовое <…>. Эмиграцию разлагать, используя в то же время отдельных лиц или организации.

*Тов. Аралов*. Указывает, что при обсуждении вопроса необходимо считаться с изменением нашей политики в отношении Польши (поездка т.Чичерина). Открытая ориентация на Минск

противоречит нашей польской политике. Далее т.Аралов зачитывает письмо тов.Чичерина.

*Тов. Славинский*. Вы говорите намеками. Надо углубить и расшифровать.

*Тов. Аралов*. Я говорю достаточно ясно. Если центром является Минск и на него ориентируется и эмиграция, и оседлое население, то все движение будет понято как наша работа. Необходимо, чтобы эта работа не мешала нашей линии.

*Тов. Криницкий*. Как увязать новую линию к Польше с лозунгом КПЗБ и как обстоит дело с укреплением работы?

*Тов. Войков*. Моя точка зрения. 1) Белорусская работа должна продолжаться; сближение с Польшей не только не должно ее прекратить, но может быть даже усилить

2) Пути, по которым эта работа должна идти, - это 1) партия, 2) Минск, 3) может быть Данциг. Варшавское полпредство должно быть от этого свободно. У поляков создано уже впечатление, что Полпредство этим делом занимается. Тот факт, что т.Ульянов ведет антипольскую работу и его поездка не секрет для поляков, нам очень вредит. Таких моментов надо избегать.

3) Надо избегать таких положений, при которых белорусское движение объединяется вокруг Минска. Это будет использовано не так Польшей, как иностранцами. Все это очень трудно провести организованно, но это необходимо сделать. Нужно дать больше средств и усилить нелегальные организации. Тов. Ульянова нужно послать в Данциг.

*Тов. Аралов*. Но не надо только вмешивать в нее Полпредство СССР и БССР. Задача заключается в том, чтобы создать национальное движение в Польше, в Латвии (Латгалия); Виленщина – один из важнейших центров этой работы.

*Тов. Славинский*. Вопрос о взаимодействии государственной и партийной линий - всегда будет две линии: НКИД и ИККИ [Исполнительный Комитет Коминтерна]. Полпредство не может отстраниться от работы. Его роль раскачивать население, создавать противоречия внутри данного государства. Борьба масс должна возглавляться Компартией. Упрек, что мы хотим коммунизировать работу, - неправилен. Полпредства ведут не только дипломатическую, политико-разведывательную работу, и вопрос только в конспирации. Громада является коммунистической лазейкой. Нужно прикрытие, под которым можно вести работу. В

Латвии мы связались только с верхушкой. Езовитов – фигура сомнительная. Он лучше свяжется с социал-демократами, чем с компартией.

*Тов. Игнатовский*. Речь идет о более осторожной работе. Это вопрос техники. Путь 2-й тов.Войков не сплюсовывал с его 1-м путем. Впутывать Полпредство нужно, но только более осторожно. Не провозглашать Минск центром официально? Выдвижение Минска неизбежно. Нужно дать больше людей в Варшавское Полпредство, тогда будет легче. А т.Ульянов работал один и поставлен в очень плохие условия.

*Тов. Войков*. <…> С т.Ульяновым у меня нет абсолютно никаких трений, но он совершенно провален. Раньше он был атташе, т.е. шпионом, а теперь он – советник, мой заместитель. И всякий знает, что этот мой зам. ведет работу по отторжению Белоруссии от Польши.

*Тов. Майский*. Белорусское движение – национально-демократическое движение. Мы имеем достаточный опыт подобных движений (Балканы, Македония). Учитывая нашу постоянную линию в отношении Польши, нужно изменить тактику. Нужно не впутывать Полпредство данной страны. Надо вести работу не из Варшавы, а, например, из Ковно. Минск – идейный центр, Ковно – практический центр. Резолюция Конференции – неосторожная. Нужно декларировать, что «положение белорусского населения в БССР» лучше.

*Тов. Александров*. Дело не в программе. В Ковно вопрос чересчур большой. В Литве не тянутся к Минску. Едут туда только по требованию. Этим дискредитируется работа. В Ковно необходимо сохранить организацию. Всебелорусский центр нужно было избрать на Конференции; этот центр был бы в наших руках. Белорусские организации должны пользоваться поддержкой края.

*Тов. Славинский*. Практический вопрос. Как мы должны опубликовать постановление Конференции. Правительство БНР ликвидируется. В пользу кого они складывают мандаты? В пользу БССР. Ульянов провалился? Это далеко не так. Дайте факты <…>. Я замечаю тенденцию в отношении к Ульянову. Необходимо внести ясность в это дело.

*Тов. Войков*. Тенденции-то у меня к Ульянову нет. По работе он мне не мешает, ибо он провалился. Я не возражаю против работы из Варшавы. Пусть будет белорусский совет нелегальный,

но пусть он не ведет нелегальную работу. Ульянов должен быть отозван.

*Тов. Боркусевич*. <…> Белорусскую работу нужно вести через Вильно. Руководить ей можно в крайнем случае из Данцига.

*Тов. Криницкий*. т. Войков не прав относительно Ульянова, но в Варшаве невозможно создать базу. Предлагаю создать комиссию для проработки вопроса по странам.

*Тов. Аралов*. Нам было бы чрезвычайно иметь центр хотя бы фиктивный.

*Тов. Славинский*. Под какой вывеской?

*Тов. Аралов*. Можно раздуть [слово нечит.] П.Головинского. Этот вопрос следует обдумать.

Решили: что т.т. Войков и Александров обсудят с товарищами белорусами вопросы относительно к Польше и Литве. О результатах Уполнаркоминдел сообщит т.Аралову.

Председатель
Секретарь

## Мікола Купава

Удакладніў сваё аўтарства паштоўкі на 1000-годдзе Беларусі. У папярэднім нумары "Скарыніча" (№ 8-9). Паштоўка была надрукавана пад прозвішчам Яўгена Куліка (яго як мажлівага выканаўцу ў свой час данімалі "сыскные" службы). Дзякуем спадару Міколу за ўдакладненне і віншуем з легалізацыяй свайго выдатнага твору.

## Вячаслаў Рагойша

Дарагі Аляксей,

Сардэчна дзякую табе за „Скарыніч" (Вып.8-9.М., 2010), які перадаў мне В.Скалабан (з невялікім спазненнем). Прыпала да сэрца і тваё запрашэнне напісаць пра "маю Маскву". Маскву я люблю – у адрозненне ад некаторых "пісакаў", якія кажуць: "Масква? Фу!.. Вось Пецярбург!" Люблю і Пецярбург, але найперш, відаць, - Маскву. Неаднойчы даводзілася быць у ёй: і калі з'яўляўся вучоным сакратаром секцыі родных моў і літаратур (старшыняваў тады М.Ларчанка) Навукова-метадычнага савета па вышэйшай філалагічнай адукацыі Мінадукацыі СССР, і калі ўваходзіў у склад Савета па мастацкім перакладзе Саюза пісьменнікаў СССР (як старшыня секцыі мастацкага перакладу СП Беларусі), і калі запрашалі на ўсесаюзныя цімафееўскія чытанні ў ІМЛІ імя М.Горкага і інш. У ІМЛІ імя М.Горкага, як ты ведаеш, абараніў доктарскую дысертацыю (дагэтуль дзякую расійскім вучоным і табе асабіста за падтрымку).

У Маскве сустракаўся з М.Улашчыкам, у Маскву ў мяне склаліся добрыя адносіны з Я.Дэйч (дагэтуль перапісваемся), Н.Над'ярных, В.Ганіевым, Л.Озеравым, Я.Хелемскім і інш. У Маскве жыве мая стрыечная сястра, доўга жыла яе маці – мая родная цётка, якая да глыбокай старасці гаварыла па-беларуску, так і не засвоіла рускую мову… Так што Масква - у маім сэрцы. Але, на жаль, для гэтага нумару "Скарыніча" нічога напісаць не змагу. Па-першае, у тыя 3-5 старонак не ўкладуся. А па-другое, няма часу. Ледзь выцягнуў адну нагу (два месяцы цяжка хварэла Таццяна,

ляжала ў інсультным аддзяленні 5-й бальніцы Мінска, цяпер крыху папраўілася), як загразла другая: у нас якраз справаздачы па навуковай працы за год і за ўсю пяцігодку. А чыноўнікі, нягледзячы на заявы самых высокіх улад ("рэзка скараціць справаздачнасць", "адно акно" і інш.), з нас "уюць вяроўкі".Ніколі такой падрабязнай і скрупулёзнай справаздачнасці не было. Мала што для ўніверсітэта трэба нейкіх пісаць дакументаў (акт, справаздача, анатацыя, спіс публікацый, табліцы…), прычым напісаных строга паводле формы (пэўны кегль, параметры старонкі, водступы…), а ўчора яшчэ з Інстытута мовы і літаратуры – гэта наша галоўная арганізацыя – прыйшло новае палажэнне, своеасаблівае, пра справаздачы, дзе трэба адказаць на некалькі дзесяткаў пунктаў… Ды яшчэ толькі на рускай мове! Дзіва дзіўнае: праграма дзяржаўная называецца "беларуская мова і літаратура", беларуская мова – канстытуцыйная, а тут – толькі на рускай мове. Званіў Лукашанцу… Але і ён нават не ведае, чыё такое распараджэнне. Відаць, нейкі высокі чыноўнік беларускай мовы не ведае, хаця есць беларускі хлеб, ды яшчэ з чорнай ікрой.

Так што, дарагі дружа, у будучым пра Маскву напішу і перашлю табе (калі яшчэ трэба будзе). А пакуль – дзякуй!

Што да "Скарыніча", то <... > ён уражвае ўсім: і багаццем арыгінальнага, нідзе не бачанага і не чытанага матэрыялу, і яго разнастайнасцю, і пафасам Беларушчыны… Дай, Божа, і табе, і ўсім, хто мае дачыненне да выдання "Скарыніча", моцы фізічнай. А духоўнай у вас хапае. І ўдач, шанцавання (у тым ліку і на спонсараў) і ў 2011-м годзе, і ва ўсе наступныя гады.

Дасылаю табе канверт са спецгашэннем, якое адбылося ў Оршы, дзе і я быў далучаны да святкавання 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча. Юбілей прайшоў на добрым узроўні. Прыязджалі і міністр культуры Латушка, і пасол Швецыі Стэфан Эрыксан, і прадстаўнік пасольства Украіны. На жаль, такая падзея не сталася ў Мінску. Няхай сабе была б і ў Оршы, але - і ў Мінску! Ужо каторы год юбілейныя вечары не атрымліваюць залаў у мінскіх тэатрах, не транслююцца па тэлебачанні. Рэпартаж на радыё (малайчына Галя Шаблінская!), цікавы, паўгадзінны, адбыўся праз тыдзень, але гэта ўсё ж не тое…

Думаю, пра апошнія падзеі ты ведаеш. Што б, аднак, не адбылося, трэба працаваць. Выдаваць "Скарынічы". Выхоўваць маладых філолагаў, беларусістаў. І верыць у лепшае:

Не бядуй, што ветах
Зноў на небе знік:
Не канец жа свету –
Блісне маладзік!

Яшчэ раз і з Новым годам, і з Калядамі! Няхай нараджаецца ўсё лепшае, светлае, маладзіковае!

Твой Вячаслаў Рагойша (да якога далучаецца і Таццяна Кабржыцкая).

Абдымаю!

Мінск, 25.12.2010 (Каляды)

# Павел Латушка



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск

Тэлефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45

e-mail: ministerstvo@kultura.by

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск

Телефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45

e-mail: ministerstvo@kultura.by

29.07.2010 № 06-14/3371/н
На № ____________ ад ______________

Чайчыцу В.М.
Старасадскі завулак, 7/10,
101000, г. Масква

Паважаны Віктар Мікалаевіч!

Выказваю Вам вялікую ўдзячнасць за магчымасць пазнаёміцца з чарговымі нумарамі літаратурна-навуковага гадавіка "Скарыніч", які выходзіць з 1991 года і працягвае справу беларускага першадрукара і асветніка Ф.Скарыны.

У выданні змяшчаецца цікавая інфармацыя пра беларускіх майстроў слова і праектах нашых суайчыннікаў. Перакананы, што гэта менавіта тое, што аб'ядноўвае і ставарае добрую платформу для развіцця дыялогу і супрацоўніцтва паміж гістарычнай радзімай і беларусамі замежжа.

Шчырае дзякуй Вам і нязменнаму ўкладальніку "Скарыніча" Аляксею Каўку за тое, што адраджаецце, развіваеце і захоўваеце па-за межамі Бацькаўшчыны традыцыі беларускай нацыянальнай культуры, мовы і гісторыі.

Поспехаў Вам, здароўя і дабрабыту. Спадзяемся на далейшае дзелавое супрацоўніцтва.

З павагай,

Міністр П.П.Латушка

06 Шышкін 203 71 76
28.07.2010 Скарыніч

## Ганна Запартыка

< ... > Пахавалі ўчора нашага светлага Уладзіміра Конана. Вельмі годна з ім развіталася ўся яго блізкая грамада. Я і Валя Данекіна Вашу просьбу выканалі. Быў букет з белых-белых півоняў і чырвоных гваздзікоў, абвіты жалобнай стужкай з надпісам, слова ў слова Вамі пададзеным. Адпявалі яго ў царкве Пятра і Паўла на Нямізе, служыў а. Ю.Залоска. Пасля ён прамовіў слова, вельмі шчырае слова і глыбокае. Прамаўлялі Алег Бембель (інак Мікалай, яго хросны сын), У.Някляеў, Л.Дранько-Майсюк, А.Марачкін, В.Акудовіч, Н.Загорская, М.Матрунчык. Можа каго прапусціла. Вельмі многа было людзей у царкве, многа кветак, вянкі. Былі сваякі, але я нікога іх не ведаю. Раніцай гэтага ж дня з У. Конанам развітваліся ў Інстытуце філасофіі. Труна з целам была там недзе да 11.00, у царкве жалобная імша пачалася блізу 12.00. Пахавалі яго на Паўночных могілках. Як жа горка, што пакідаюць нас такія шчырыя, чыстыя, як наш Філосаф, людзі. Быў у нас у архіве-музеі ўсяго нейкі месяц таму. Прынёс запоўненую анкету з тэмай на "Узвышаўскія чытанні", атрымаў у падарунак 2-х томнік А.Бабарэкі, прытуліў так добра-шчыра, сказаў, што цяпер будзе яму што пачытаць у шпіталі. Так я даведалася, што ён кладзецца на лячэнне, як сказаў "адразу ад вас". Абяцаў тэлефанаваць, калі выйдзе са шпіталя, ці зможа прыйсці на канферэнцыю. Але не патэлефанаваў і не змог. І гэта была наша апошняя сустрэча. Вечны яму Супакой і Памяць.

< ... > І ў апошні радок - пра "Узвышаўскія чытанні". Прайшлі вельмі актыўна. Праграма была вельмі цікавай. Ваш "незавершаны" даклад я прачытала. Ведаеце, былі апладысменты. Тэма проста ў "дзесятку" Абавязалі Вас "дазавяршыць". Праграму канферэнцыі вышлем Вам поштай. Вось-вось выйдзе пяты зборнік "Пра час "Узвышша" і тады ўсё разам пашлем...

09.06.2011

# СКАРЫНІЧ

Литературно-научный ежегодник
Выпуск 10

**Сардэчная падзяка спрыяльнікам гэтага выдання:**
Софіі Астроўскай, Валерыю Голубу, Ганне Запартыка, Міхасю Скоблу, Алесю Чайчыцу.

---

На вокладцы: помнік Францішку Скарыну ў Мінску каля Нацыянальнай бібліятэкі (на былых содалевых сотках у Зялёным лузе). Скульптар А.Дранец.

ISBN 978-5-93121-293-7

Издательство "ПКЦ "Альтекс"
Г. Москва, ул. Давыдовская, д. 10

Подписано в печать 06.12.11г. Формат 60х90 1/16
Печ.л.8. Тираж 200 экз. Заказ № 4885

Отпечатано в типографии ООО "Бизнес Континент"
101000, г. Москва, Лучников пер., д.4 стр.2